*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 23 верасня 1988 г. № 38 (3448) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.




## СВЯТЛО ЯГО ЗОРКІ

У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР адкрылася выстаўка твораў аднаго з найбольш вядомых беларускіх жывапісцаў, графікаў і скульптараў, гарачага падзвіжніка і асветніка Язэпа Драздовіча, прымеркаваная да 100-годдзя з дня нараджэння творцы.

Арганізатары выстаўкі — Міністэрства культуры БССР, Беларускі фонд культуры, Саюз мастакоў рэспублікі, Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі — парупіліся, каб па магчымасці найбольш поўна прадставіць творы Я. Драздовіча з фондаў таго ж мастацкага музея, а таксама Дзяржаўнага музея БССР, Музея старажытнай беларускай культуры АН БССР, фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР, Літаратурнага музея Якуба Коласа, гісторыка - этнаграфічнага музея Літвы, з прыватных калекцый. Тым самым пашыраецца ўяўленне аб сапраўдным мастакоўскім подзвігу, што здзейсніў гэты «вечны вандроўнік» (А. Ліс), які асноўнае сваё прызначэнне бачыў у самааддданым служэнні роднаму народу, Радзіме, пастаянна дбаў аб тым, каб народ далучаўся да вытокаў культуры, добра ведаў сваё герычнае мінулае.

Знаёмства з выстаўкай — зайздросная магчымасць праймціся сцяжынамі творцы - падзвіжніка, удыхнуць паветра, што жывіла яго, надавала сілы і моцы, штурхала на ўсё новыя і новыя мастакоўскія пошукі.



«Друкарня Ф. Скарыны ў Вільні».



«Космас».



«Партрэт брата Баляслава».

Выстаўка — свайго роду выбоанае з пеpажытага і здзейсненага Я. Драздовічам. Калі знаёмішся з ёю, міжволі прыгадваецца, што свой першы твор, датаваны 1909 годам — малюнак для вокладкі «Першага беларускага календара «Нашай Нівы», ён падпісаў псеўданімам І. Разора. Селянін арэ зямлю, пракладаючы баразну на зямлі, якую перадаваць яму нашчадкам.

Шчодра апрацоўваў свой мастакоўскі загон і сам Я. Драздовіч, кідаючы ў барозны зерні святу, дабра, справядлівасці. І сімвалічна тое, што яго творчая зорка, запаленая ва ўмовах, далёка не спрыяльных для развіцця беларускай нацыянальнай культуры, заззяла на яе гарызонце ва ўсю моц сёння, калі менее «белых плям» у гісторыі.

На адкрыцці выстаўкі выступілі дырэктар Дзяржаўнага мастацкага музея БССР Ю. Карачун, сакратар праўлення Саюза мастакоў БССР М. Бушчык, загадчык аддзела Беларускага фонду культуры Я. Шунейка, мастак А. Марачкін.

Пасля Мінска з выстаўкай твораў Я. Драздовіча пазнаёмяцца літоўскія гледачы.

НАШ КАР.

## УНУМАРЫ:

СУСТРЭЧЫ З КІТАЙСКІМІ СЯБРАМІ 2—3

*«У МЯНЕ НЯМА ВЕСЯЛОСЦІ...»*
Нататкі старшыні праўлення Беларускага аддзялення Савецкага дзіцячага фонду У. ЛІПСКАГА 4

«ЖАНЧЫНА Ў ЧОРНЫМ І АФГАН»
Апавяданне В. КАРАМАЗАВА 8—9, 10—11

ЗДЫМАЕЦЦА КІНО...
Новая роля У. Гасцюхіна 10—11

*ПРЭСТЫЖ РОДНАЙ МОВЫ*
«Круглы стол» у Міністэрстве культуры рэспублікі 13

МУЗЕЙ НАРОДНАЙ АРХІТЭКТУРЫ: пакуль ідуць спрэчкі
Вяртаючыся да надрукаванага 14—15

## *З пошты «ЛіМа»*

# ● КРОПЛІ «ЖДАНАЎСКАЙ ВАДКАСЦІ»

# ● ПІРОГ З МАКАМ

# ● СПРАЧАЦЦА—З КІМ І ДЗЕ?

●

А. А. Жданаў. Сталінскі «апрычнік», сааўтар 1937-1938 гадоў. Многія справы гэтага «чыстага ідэолага» нам ужо вядомыя. Тут і жудасныя ганенні на дзеячаў літаратуры і мастацтва (дарэчы, вядомая жданаўска - сталінская пастанова 1946 года і да нашых дзён не адменена!), і лінія на ўзмацненне «пільнасці», за якую дорага заплаціла наша партыя і народ.

Аднак і сёння імя Жданава носяць тры гарады, два універсітэты, тысячы калгасаў, саўгасаў, вуліц, школ, фабрык, палацаў піянераў... Словам, уся краіна яшчэ ў кроплях «жданаўскай вадкасці». Даходзіць часам да парадоксаў: у Мінску вуліца Жданава — побач з вуліцай Тухачэўскага!

Да Беларусі, дарэчы, Жданаў не меў зусім, можна сказаць, ніякіх адносін. Але ў рэспубліцы, на сённяшні дзень, імя гэтага дзяржаўнага дзеяча носяць 31 калгас, 3 саўгасы, сярэдняя школа, 36 вуліц у гарадах і гарадскіх пасёлках, 1 праезд, 2 вёскі, 3 завулкі!

Што гэта? Цынізм тых, хто свядома не хоча адмовіцца ад услаўлення вядомага, але скампраметаванага, імя?

Пойдзем далей. Хіба не выклікае, мякка кажучы, здзіўленне, што, скажам, імя Калініна носяць 162 беларускія вёскі, калгасы, саўгасы, школы, вуліцы, завулкі? Ці не замнога? Імем Варашылава ў нашай рэспубліцы названы вёска, 2 калгасы і 41 вуліца. У гонар Будзённага названы 2 вёскі, 3 калгасы, 55 вуліц і завулкаў. Нават імя амаль забытага ў нас партыйнага дзеяча сталінскіх гадоў А. А. Андрэева далі калгасу і тром вуліцам.

У рэшце рэшт, усё тут зразумела. Калі сотні тысяч найменаванняў былі пазначаны імем «вялікага правадыра ўсіх часоў і народаў», дык чаму не магло быць і назваў, прысвечаных малым «кульцікам»? Але ж гэта — **было!** Чаму ж усё (акрамя **іменаў Сталіна,** Молатава, Кагановіча, Маленкова і некаторых іншых) у гэтым сэнсе застаецца па-ранейшаму? Чаму на слыху ўсё яшчэ тыя імёны, якія я ўспомніў у пачатку гэтага ліста? Што, чакаем каманды зверху? Як было раней, калі без санкцый вышэйстаячага начальства чыноўнік баяўся не толькі самастойна дзейнічаць, але і самастойна думаць?

Дарэчы, у Літве, як паведамляе газета «Советская Литва» (28.06.1988), з сямі калгасаў **імя Жданава** — шэсць па ініцыятыве калгаснікаў ужо перайменаваны.

Што, у нас на Беларусі няма таленавітых людзей, гістарычных асоб, імя якіх слаўнае ў вяках? Амаль не гучаць у назвах імёны Скарыны, Каліноўскага, Цёткі. А дзеячы Кастрычніка, станаўлення Савецкай улады ў рэспубліцы (напрыклад, ёсць толькі адна на ўсю рэспубліку вуліца імя Галадзеда)?

Наогул, калі знаёмішся з назвамі многіх нашых вуліц па даведніку «Іх імёнамі названы...», міжволі думаеш, хто і з якой нагоды іх называў так, а не інакш. Напрыклад, па ўсёй рэспубліцы не сустрэнеш на вуліцах імёнаў беларускіх мастакоў (акрамя Б. К. Бялыніцкага-Бірулі). Не знойдзем мы вуліц імя Ваньковіча, Гараўскага, Драздовіча, Жукоўскага, Хруцкага, Грубэ, Керзіна, Глебава, Ахрэмчыка, Бембеля... Затое ёсць 13 вуліц Рэпіна, 4 — Шышкіна, 5 — Васняцова, 2 — Айвазоўскага, ёсць вуліца, завулак і праезд Сурыкава, вуліцы Верашчагіна, Фядотава, Стасава, Сярова, Крамскога і нават баталіста Грэкава. Безумоўна, усё гэта цудоўныя майстры. Але да мастацтва Беларусі яны мелі вельмі слабое дачыненне.

Мне могуць запярэчыць: маўляў, на шляху перайменавання вуліц, населеных пунктаў ёсць сур'ёзныя перашкоды — пераафармленне дакументацыі, прапіскі людзей і г. д. Але не гэтага трэба палохацца там, дзе гаворка ідзе пра гады рэпрэсій. Маральнае ачышчэнне, узнаўленне гістарычнай справядлівасці — гэта галоўнае! Што тычыцца эканамічных затрат, дык можна абвясціць і добраахвотны збор сродкаў для частковай кампенсацыі выдаткаў на гэтую акцыю. Няма сумнення: людзі адгукнуцца.

**Б. КРЭПАК,**
**мастацтвазнаўца.**

●

У многіх вёсках Беларусі, у прыватнасці на Магілёўшчыне, унукі нярэдка чуюць ад разгневаных бабуль:

— Трасцы ты хочаш з макам!

Гэта азначае, бабуля ніяк не можа падабраць малому ежу па душы. І наогул ён невядома чаго хоча, але абавязкова з макам.

Так было.

Але пачынаючы з сёлетняга года нашым бабулям давядзецца забываць гэту прымаўку. Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 31 ліпеня 1987 года забараняе насельніцтву пасевы маку ў сваіх агародах. І ўказ нежартоўны: ён пагражае пазбаўленнем свабоды да пяці год.

Указ прыняты быццам бы з высакароднай мэтай барацьбы з наркаманіяй: пазбавіць наркаманаў сыравіны. Але ці патрэбна дзеля гэтага пазбаўляць насельніцтва цэлай рэспублікі традыцыйнага, шматвяковага хоць і не першаступеннай важнасці прадукта? Вякамі радавалі вясковага (ды ці толькі вясковага) жыхара ярка- і бледна-ружовыя кветкі ў гародах. І смачны кавалак пірага з макам за святочным сталом ніколі не быў лішнім.

І нарэшце, ці той гэта шлях для барацьбы з наркаманіяй? Забараніць — вельмі проста, прасцей некуды. Ці не лепей было б узмацніць барацьбу з наркаманіяй, паставіць заслон не маку, а наркаманам? Праўда, гэта значна цяжэй. А цяжкасці далёка не ўсім падабаюцца. Вось і выбрана самае лёгкае: забараніць. Гэта яўна аджылы, бюракратычны шлях.

А калі ўжо забараняць, чаму б не пайсці далей? Не сакрэт, што знаходзяцца не зусім свядомыя грамадзяне, якія гоняць самагонку, выкарыстоўваючы ячмень і бульбу. Вось і забараніць бы пасевы гэтых культур. І ўжо самі сабой просяцца пад забарончы ўказ цукровыя буракі. Заадно наогул бы забараніць і продаж цукру. Глядзіш, і ніякай барацьбы з самагонкай весці не трэба. Цішыня ды супакой.

Адным словам — трасцы нам усім з макам?

**Георгій ЮРЧАНКА.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Публікуючы гэты ліст, мы добра ўсведамляем, што ў работнікаў Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі, наркалагічнай службы ёсць свой, супрацьлеглы пункт гледжання на праблему. Дарэчы, яны выказалі свае погляды ў артыкуле «Пастка», апублікаванай у «ЛіМе» 25 верасня 87 г.**
**Але галоўная думка чытача — перасцерагчы ад магчымых перагібаў у барацьбе са страшным злом — наркаманіяй, — думаецца, усё-такі слушная.**

●

У № 3 за гэты год часопіса АН СССР «Советское славяноведение» апублікаваны пісьмо-артыкул беларускіх даследчыкаў пад назвай «Неужели запретная зона?». Яе аўтары — доктар гістарычных навук, прафесар А. П. Грыцкевіч, сапраўдны член Геаграфічнага таварыства СССР В. П. Грыцкевіч, доктар філалагічных навук А. І. Мальдзіс — уздымаюць важнейшыя праблемы айчыннай і, у прыватнасці, беларускай гістарыяграфіі.

**НАШЫ ГОСЦІ**

# «Нінь хао!»—«Добры дзень!»

**«У ходзе магутных працэсаў абнаўлення, якія адбываюцца ў абодвух вялікіх сацыялістычных дзяржавах, множацца кропкі судакранання паміж Савецкім Саюзам і Кітаем. У гэтых сацыялістычных дзяржавах ідуць вельмі глыбокія ўнутраныя перамены. Мы можам канстатаваць, што ўсё больш становіцца добразычлівасці і даверу ў адносінах паміж нашымі народамі, аднавіліся і напаўняюцца новым зместам глыбокая цікавасць адзін да другога, расце, я б сказаў, узаемнае прыцяжэнне», — гаварыў М. С. Гарбачоў у сваім нядаўнім выступленні ў Краснаярску.**
**Адным з фактаў, якія пацвярджаюць слушнасць гэтых слоў, з'яўляецца ажыўленне кантактаў паміж работнікамі культуры, у прыватнасці, паміж пісьменнікамі дзвюх краін. На старонках «Литературной газеты» і «ЛіМа» расказвалася аб паездцы гэтым летам у Кітай дэлегацыі нашых пісьменнікаў — прадстаўнікоў літаратурных выданняў краіны. І вось з візітам у адказ нас наведала група кітайскіх пісьменнікаў, супрацоўнікаў літаратурных выданняў КНР. Сустрэчы ў Маскве, Ленінградзе, Мінску...**


Максім ТАНК з кітайскімі гасцямі.

Праўду кажуць у народзе, што ёсць людзі, у якіх лёгкая рука. Не так даўно, у мінулым годзе, гасцяваў на Беларусі кітайскі літаратуразнавец, перакладчык славянскіх літаратур, у тым ліку твораў Янкі Купалы і Максіма Танка, прафесар Гэ Баоцюань. І вось з яго, можна сказаць, лёгкай рукі да нас зноў завіталі госці з Кітая.

Тры дні кітайскія літаратары былі гасцямі Саюза пісьменнікаў БССР і рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». У склад дэлегацыі ўваходзілі член праўлення СП Кітая, намеснік старшыні Шанхайскага аддзялення Саюза пісьменнікаў У Цян, намеснік галоўнага рэдактара пекінскай газеты «Вэньібао» («Літаратура і мастацтва»), намеснік старшыні Асацыяцыі эсэістаў Кітая прафесар У Тайчан, намеснік старшыні аддзялення Саюза пісьменнікаў Гуандунскай правінцыі, галоўны рэдактар часопіса «Хуачэн» («Кветка») Лі Шыфэй. Дэлегацыю суправаджаў першы сакратар пасольства КНР у Савецкім Саюзе Гуань Вэньсюэ.

І на гэты раз — як і Гэ Баоцюань — кітайскія госці пачалі знаёмства з радзімы Янкі Купалы — Вязынкі. З цікавасцю яны аглядалі хату, у якой нарадзіўся паэт, знаёміліся з рэчамі, сярод якіх жыў малалетні Янка (а музей у Вязынцы, як вядома, пэўнае ўяўленне пра гэта дае). І вось ціха, пранікнёна, як малітву, прачытаў самы маўклівы з гасцей Лі Шыфэй верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?» на кітайскай мове, паказаны гасцям супрацоўніцай музея. А калі вярталіся ў Мінск, Лі раптам пачаў чытаць свае, толькі што напісаныя радкі:

У драўляным доміку
вісіць старадаўняя люлька...
Не спадабалася дзіцяці,
што люлька малая.
Устаў ён з яе
і пайшоў у лясы і палі,
і знайшоў там пакуты народа...

**Даведка.** Лі Шыфэй нарадзіўся ў 1930 г. Празаік і паэт. За апавяданне «Нянавісць» атрымаў першую прэмію правінцыі Гуандун, лаўрэат Усекітайскай прэміі за лепшы нарыс (зборнік «Гарачая кроў мужчыны»).

Кітайскія сябры казалі мне, што Лі Шыфэй — паэт эмацыянальна - лірычнага складу, шырока вядомы на радзіме. Ды і наогул, як расказвалі нашы госці, кожны член СП Кітая — гэта заслужаны, паважаны літаратар. Мяркуйце, чытачы, самі: у краіне больш як мільярд насельніцтва, а ўсекітайская пісьменніцкая арганізацыя налічвае ўсяго тры тысячы дзвесце членаў. Праўда, ёсць яшчэ правінцыяльныя саюзы, члены якіх не ўсе з'яўляюцца членамі ўсекітайскага. (Для параўнання скажу: у Савецкім Саюзе дзесяць тысяч членаў СП на дзвесце восемдзесят мільёнаў чалавек).

Пасля Вязынкі госці наведалі Літаратурны музей Якуба Коласа ў Мінску. Экскурсію з імі правёў сын народнага песняра Міхась Канстанцінавіч.

Першыя ўражанні ад горада, ад музеяў, першыя водгукі... Гаворыць У Тайчан:

— Я ведаў, што ёсць такі горад — Мінск, сталіца Беларусі, які мужна змагаўся супроць гітлераўскіх захопнікаў, панёс вялікія ахвяры. І вось мы прыехалі сюды і ўбачылі цудоўны, заліты вераснёўскім сонцам горад, сустрэлі тут сваіх сяброў і адчулі сардэчны прыём мінчан. Калі наведвалі родныя мясціны вашых паэтаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа, то я думаў: яны падобны на нашых вялікіх паэтаў, бо гэтак жа дбалі і пісалі пра народ і Радзіму. Цяпер я ганаруся і вашымі народнымі паэтамі. Я хацеў бы набраць кітайскіх кветак і вярнуцца сюды зноў, каб пакласці іх да помнікаў вялікіх паэтаў... Мая праца звязана з паездкамі і падарожжамі. І я спадзяюся, што яшчэ раз прыеду ў Беларусь, пабуду тут даўжэй, буду мець магчымасць палюбавацца надзвычай прыгожымі беларускімі мясцінамі, дакрануцца ў Вязынцы да Купалавай крыніцы.

**Даведка.** У Тайчан нарадзіўся ў 1937 г. Празаік, крытык. Акрамя непасрэднай працы ў газеце «Вэньібао», з'яўляецца членам рэдкалегій часопісаў «Свет эсэ», «Штомесячнік прозы», «Дзіцячая літаратура». Аўтар шэрагу прац па гісторыі і тэорыі літаратуры, празаічныя творы ўвайшлі ў зборнік «Выбранае».

Назаўтра была Хатынь. Было доўгае маўчанне ад убачанага. І толькі як паказаўся Мінск, У Тайчан папрасіў свайго аднафамільца У Цяна, старэйшага члена дэлегацыі, удзельніка барацьбы за вызваленне Кітая ад японскіх мілітарыстаў, падзяліцца сваімі ўражаннямі.

— Убачыўшы мемарыял, даведаўшыся пра ўсё, што тварылі акупанты на беларускай зямлі, я зноў адчуў прыліў нянавісці да фашыстаў, да ўсіх агрэсараў, — горача зазначыў У Цян. — Народы Савецкага Саюза і Кітая, народы ўсёй зямлі не хочуць вайны, а хочуць міру. Мяне глыбока ўсхвалявалі гераічны дух беларускага народа, яго самаахвярнасць у змаганні з ворагам. У час вайны мы пільна сачылі за ходам баёў пад Масквой, Ленінградам, на Волзе. Мы верылі, што Савецкі Саюз пераможа, і зналі, што гэта наблізіць нашу перамогу.

У свой час, — працягваў У Цян, — я напісаў раманы «Чырвонае сонца» і «Крэпасць», прысвечаныя гераізму кітайскага народа, яго барацьбе за вызваленне. Азнаёміўшыся з Хатынскім мемарыялам, я яшчэ раз адчуў, што мае творы напісаны, па сутнасці, пра тое ж самае. Больш таго — адчуваю цяпер, што напішу яшчэ твор на гэтую тэму: і ў нас таксама было спалена многа вёсак.

Хатынскі помнік, — дадаў госць, — робіць вялікае ўражанне. Гэта сапраўдны твор манументальнага мастацтва. Наведванне мемарыяла — цэлае для мяне адкрыццё, яно пакідае глыбокі след у душы.

**Даведка.** У Цян нарадзіўся ў 1910 г. Член Усекітайскай асацыяцыі дзеячаў літаратуры і мастацтва. У 1933 г. уступіў у левую Лігу кітайскіх пісьменнікаў. У сваіх празаічных творах, напісаных яшчэ да 1949 г. — да ўтварэння КНР,— адлюстраваў этапы барацьбы супраць захопнікаў. Асаблівую вядомасць набыў яго раман «Чырвонае сонца» (у Маскве выдадзены на рускай мове ў 1959 г.).

Адбыліся сустрэчы з кітайскімі калегамі ў Саюзе пісьменнікаў і ў Доме творчасці «Іслач». У іх прынялі ўдзел кіраўнікі СП Максім Танк, Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Валерый Скварцоў, галоўны рэдактар «ЛіМа» Анатоль Вярцінскі, загадчык рэдакцыі замежнай літаратуры выдавецтва «Мастацкая літаратура» Барыс Сачанка, дырэктар аддзялення Літфонду Васіль Вільтоўскі. Народны паэт Максім Танк расказаў, як ён ездзіў у Кітай, дзе прысутнічаў на адкрыцці моста

Цяпер няма недахопу ў сцверджаннях, што забароненыя зоны ліквідаваны, што няма тэм, закрытых для абмеркавання. Як добра было б, калі б гэтыя новыя лозунгі аказаліся напоўненымі такім жа важкім зместам, які неслі ў сабе ранейшыя незлічоныя табу. Яны нарадзілі такую своеасаблівую гісторыю, што яе, акрамя ўсяго іншага, аказалася немагчыма здаваць нават школьнікам на выпускных экзаменах... Ці не карыкатурны гэта сімвал? Да чаго ж мы дажылі, ператварыўшы тое, што некалі паважліва называлі гістарычнымі аналамі, у ідэалагічны цыркуляр, які перапісваецца наноў пасля кожнай чарговай змены каравула ўлады!

Добра, калі б гаворка ішла толькі пра гісторыю бліжэйшую да нас — тут яшчэ патрэбны адлегласці для разгляду вялікага і нікчэмнага, — а то ж і ў сярэднявеччы праблем не злічыць, як паказалі аўтары прыгаданага пісьма.

Схемы, догмы, міфы — і над усім гэтым непарушны твар псеўданавуковага начальніка, які пастуліруе ўласныя кан'юнктурныя погляды як адзіна правільныя. Якое мноства евангелляў нарадзілі сталінска-брэжнеўскія часы ва ўсіх галінах грамадскіх навук, і цяпер мы разгублена раптам заўважаем, што ўсе гэтыя евангеллі — апокрыфы. У чалавека, які цікавіцца гісторыяй, але прафесійна не займаецца ёю, натуральна ўзнікае пытанне: у што ж верыць?

Аўтары пісьма ўказваюць на ычыны гэтага нецярпімага ановішча, абсалютна справядліва гаворачы пра пагарду да першакрыніц — айчынных і замежных, пра «ўхілы» ў развіцці гістарычнай навукі ў Беларусі, якія прывялі да перакосаў у даследаваннях і выкладанні, што, па сутнасці, дыскрэдытавала гісторыю як навуку.

Трэба аддаць належнае прафесійнаму такту аўтараў пісьма: гаворачы пра негатыўныя тэндэнцыі, яны пазбягаюць эмацыянальных ацэнак. Куды «ярчэйшыя» былі ацэнкі, дадзеныя беларускай гістарыяграфіі на нядаўнім пленуме праўлення СП БССР «Гісторыя народа і літаратура». Але ацэнкі ацэнкамі, а насцярожвае вось які факт, дарэчы, адзначаны самімі аўтарамі. І цяпер жа не створаны гарантыі сапраўды навуковага абмеркавання праблем. У якім жа выданні маглі б весціся спрэчкі, выказвацца адрозныя ад «агульнапрынятых» канцэпцыі, гіпотэзы, версіі — без чаго не можа існаваць ніякая навука?

Невыпадкова са сваім пісьмом аўтары вымушаны былі звяртацца «ў Маскву», хоць праблемы заслугоўваюць перш за ўсё гаворкі на месцы. Аднак названае пісьмо не мела шанцаў быць сёння апублікаваным у рэспубліцы: у «Весцях АН БССР» строгі кантроль чыноўнікаў Інстытута гісторыі АН БССР, супраць якіх і накіравана крытычнае вастрыё ліста. У рэспубліканскай прэсе падобныя пытанні, спасылаючыся на іх прафесійную складанасць, не бяруцца абмяркоўваць, а калі і бяруцца, то атрымліваецца такая паleміка, ад якой патыхае застойнай цвіллю ды вяльможнымі вокрыкамі, як гэта здарылася з «дыскусіяй» з прычыны артыкула М. Ермаловіча пра старажытны Полацк...

Ці не час і на самай справе стварыць беларускі славістычны ці гістарычны часопіс, свабодны ад ведамаснага дыктату і групавых схільнасцей?

**А. ВАРАВА,**
**член краязнаўчай камісіі Беларускага фонду культуры.**

г. Мінск.

## ЧЫТАЧ ПРЫЙШОЎ У РЭДАКЦЫЮ

**Абвясціўшы ў № 36 «ЛіМа» прэм'еру рубрыкі «Чытач прыйшоў у рэдакцыю...», мы, натуральна, не без хвалявання чакалі: ці прыцягне яна ўвагу людзей, ці будзе жыццяздольнай? Сведчанне таму, што — так, прыцягнула, — наша наступная сустрэча, яшчэ адзін прамы кантакт з чытачом у аддзеле пісьмаў штотыднёвіка. На гэты раз у рэдакцыю прыйшоў са сваім клопатам Чэслаў Нікадзімавіч МУЛІЦА — намеснік начальніка Упраўлення культуры Мінскага гарвыканкома.**

# НЕ ПАЛОХАЙЦЕСЯ, АЛЕ...

— У панядзелак, як заўсёды, на чарговую планёрку ва ўпраўленні культуры сабраліся дырэктары паркаў культуры і адпачынку нашай сталіцы, — сказаў ён. — Сабраліся і заявілі: больш так працаваць немагчыма! І — ледзь не заявы па ўласным жаданні на стол кладуць.

Справа ж вось у чым. Мала хто з тых, хто наведвае мінскія паркі (а мо наогул ніхто) і карыстаецца там рознымі «чортавымі коламі», «суперамі» і «паратруперамі», ведае, што кожнае ўключэнне атракцыёнаў каштуе тэхнікам, якія абслугоўваюць іх, вялікіх нервовых напружанняў, ці не стрэсаў. Не, я не ўтрырую, не перабольшваю. Атракцыёны тыя да такой ступені маральна і фізічна (!) састарэлі, што не «біць у званы», я лічу, злачынна! Бо кожны дзень можа прынесці ахвяру. Страшна сказаць: напрыклад, у парку культуры і адпачынку 50-годдзя Кастрычніка з 14 атракцыёнаў — 7 ужо дэманціравана і 7 падлягаюць неадкладнаму спісанню! А мы — эксплуатуем іх.

Дзе ж выйсце? Наспеў час у рэспубліцы адкрыць цэх або нават невялікае прадпрыемства па вырабу і рэканструкцыі атракцыённай тэхнікі для паркаў культуры і адпачынку. Трэба, каб былі і выпрабавальныя палігоны, і спецыяльныя кадры. Словам, паставіцца да праблемы сур'ёзна.

Яшчэ ў 1985 годзе Савет Міністраў БССР прыняў пастанову «Аб дадатковых мерах па развіцці сеткі і ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы паркаў культуры і адпачынку». У сваю чаргу Мінскі гарком партыі і выканком Мінскага гарсавета распрацавалі праграму развіцця гарадской гаспадаркі г. Мінска на XII пяцігодку. Напрыклад, планам прадугледжвалася рэканструкцыя летняга тэатра і танцавальнай веранды ў парку Чэлюскінцаў. Думаеце, там ва ўсю ідуць работы? Памыляецеся. Падрадчык — будтрэст № 1 — не «ўключаецца», бо аб'екта няма ў плане ВА *«Галоўмінскбуд»*. Чаму? А таму, што ў заказчыка няма сродкаў на рэканструкцыю (як вядома, упраўленне культуры не мае ні сваёй матэрыяльнай базы, ні грашовых рэсурсаў). Міністэрства культуры рэспублікі ліміты на будаўнічыя матэрыялы, тэхніку, абсталяванне размяркоўвае далёка не на патрэбы паркаў. Ну а тыя прадпрыемствы, якія маглі б выдаткаваць сродкі, дапамагчы рабочай сілай, будаўнічымі матэрыяламі і якія тэрытарыяльна разам з пэўным паркам знаходзяцца ў адным раёне сталіцы? (Дарэчы, такая дапамога з боку прадпрыемстваў у згаданай пастанове Савета Міністраў БССР агаворваецца). Прадпрыемствы — «самоустранились», хоць грошы ім самім ні ў кога не трэба пазычаць, асабліва цяпер, калі яны перайшлі на гасразлік і самафінансаванне. Возьмем, да прыкладу, парк культуры і адпачынку 900-годдзя Мінска, што ў мікрараёне «Чыжоўка». У гэтым раёне ў асноўным жывуць тыя, хто працуе на Мінскім аўтазаводзе. Вось чаму па наказе дэпутатаў аўтазавод павінен быў пабудаваць у гэтым парку летні тэатр, адміністрацыйны будынак і г. д. Яшчэ летась мы перадалі на прадпрыемства ўсю каштарысна-праектную дакументацыю, *але яна так і засталася* нікому не патрэбнымі паперкамі.

Здавалася б, той жа парк 50-годдзя Кастрычніка маглі ўзяць пад сваю апеку ажно тры раёны сталіцы — Партызанскі, Ленінскі, Заводскі, дзе столькі буйных прадпрыемстваў. Маглі б скааперавацца і зрабіць там цудоўны куток адпачынку. Ды куды там... Затое на тэрыторыі парку ёсць аб'ект, які ніякім чынам не звязаны з арганізацыяй вольнага часу наведвальнікаў. Гэта — прафілакторый трактарнага завода, які, бадай, існуе толькі для таго, каб рабочыя, якія маюць пуцёўкі, схадзілі туды тры разы на дзень паесці. У самім жа парку няма нават адміністрацыйнага памяшкання...

Наогул, калі пэўны аб'ект знаходзіцца на тэрыторыі парку культуры і адпачынку, дык ён павінен выкарыстоўвацца менавіта для адпачынку кожнага, хто сюды прыйшоў. А як, напрыклад, выкарыстоўваецца каток у парку Горкага? Вельмі проста: для трэніровак спартсменаў (план жа платных паслуг выконваецца!), астатнія могуць толькі быць у якасці гледачоў. Тое ж самае і з тэніснымі кортамі, якія пабудаваў завод Вавілава ў парку Чэлюскінцаў, утварыўшы тым самым на яго тэрыторыі «прыватную» гаспадарку. Між тым, корты ў асноўным пустуюць. А калі падысці да *праблемы* сапраўды па-гаспадарску, дык два-тры разы на тыдзень завод мог бы гэтыя корты за плату здаваць наведвальнікам парку. І грошы б мелі, і людзям дабро зрабілі б...

Вось тыя праблемы, што прывялі мяне ў рэдакцыю. Думаецца, іх вырашэнне — клопат не адно толькі гарадскога ўпраўлення культуры,— сказаў на заканчэнне Ч. Муліца.



У ЦЯН у Хатыні



У ТАЙЧАН. Гуань ВЭНЬСЮЭ. М. К. МІЦКЕВІЧ у *Літаратурным музеі Якуба Коласа.*



Глыток вады з Купалавай крыніцы ў Вязынцы (У Тайчан).

праз раку Янцзы, пабудаванага паводле савецкага праекта: як пазнаёміўся з Гао Манам і Гэ Баоцюанем, у перакладзе якіх выйшла пасля кніга яго вершаў. Спачатку, — прыгадаў Яўген Іванавіч, — ён не надаў значэння прапанове кітайскіх сяброў выдаць кнігу яго паэзіі, палічыў, што гэта звычайная ветлівасць. Ды праз нейкі час атрымаў ліст ад кітайскіх сяброў з просьбай прыслаць падрадкоўнікі. Як бачым, падкрэсліў *Максім Танк*, у нашых кітайскіх сяброў словы не разыходзяцца са справай. І вопыт перабудовы таксама сведчыць пра гэта.

Ніл Гілевіч гаварыў пра добрыя пачуцці, якія здаўна жывуць у беларусаў у дачыненні да вялікага кітайскага народа, да яго гісторыі, яго літаратуры. Ён, у прыватнасці, нагадаў той факт, што ў гады грамадзянскай вайны ў чырвонаармейскіх часцях былі кітайцы, былі яны і ў Першым беларускім палку.

У час гутарак закранаціся пытанні ўзаемаадносін паміж дзвюма краінамі, выказвалася ўзаемнае задавальненне, што яны зноў уваходзяць у нармальнае рэчышча — аб чым сведчыць абмен пісьменніцкімі дэлегацыямі дзвюх краін, далейшы працяг нашых колішніх творчых сувязей.

І сапраўды, колькі было ўкладзена душы і працы ў нашу дружбу, наша супрацоўніцтва ва ўсіх галінах, у тым ліку і ў літаратуры. За пасляваенны час тройчы выходзілі ў Беларусі зборнікі апавяданняў кітайскіх пісьменнікаў, шмат разоў выдаваліся па-беларуску кнігі народных казак, асобнымі выданнямі выпускаліся творы Ду Фу, Дзін Ліна, Ло Даня, Лу Сіня, Мао Дуня, Сань Шанфэя, Хуа Шаня, Чжао Шулі, Чжоу Лібо. Неаднаразова з'яўляліся публікацыі твораў кітайскіх пісьменнікаў у перыядычным друку, змяшчаліся і артыкулы пра іх. Я і сам, да слова сказаць, меў некалі маленькае дачыненне да такіх публікацый: будучы студэнтам Брэсцкага педінстытута змясціў у абласной газеце «Заря» свой водгук на кітайскі фільм «Стальны салдат».

Ёсць падставы зазначыць, што вытокі нашых літаратурных сувязей сягаюць да нашаніўскай пары, калі ў 1910 г, на старонках першай беларускай газеты былі надрукаваны пераклады кітайскіх народных казак (падрабязней гл. нататку У. Содаля «З кітайскай пераклаў прыват-дацэнт Аляксееў», «ЛіМ», 16 верасня 1988 г.).

Пра сённяшні стан беларуска-кітайскіх літаратурных сувязей, пра новыя пераклады з кітайскай гаварыў Барыс Сачанка: у «Даляглядах-88» змешчаны апавяданні Чжоў Кэціня і Чжан Канкана, у «Даляглядах-89» будуць апублікаваны творы Ван Цзэнці і Ма Фына, у выдавецтве рыхтуецца да выпуску кніга класічнай паэзіі Кітая і зборнік сучаснай кітайскай аповесці. Новыя пераклады з кітайскай з'яўляліся апошнім часам і на старонках «ЛіМа».

Натуральна, што і ў час сустрэч літаратараў дзвюх краін заходзіла размова і аб выданні твораў нашых празаікаў і паэтаў у Кітаі. Называліся імёны Купалы, Коласа, Мележа, Быкава, Брыля, Шамякіна. Госці прывезлі з сабой і падарылі нам новыя выданні — кнігу С. Алексіевіч «У вайны не жаночы твар» і альбом мастацтвазнаўцы Чжэнь Пэн «Сучасны савецкі жывапіс», у якім змешчаны рэпрадукцыі работ Г. Вашчанкі і М. Савіцкага і артыкулы пра іх.

Госці былі прынятыі ў Доме дружбы — Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Старшыня праўлення таварыства Арсень Ваніцкі расказаў аб дзейнасці беларускага аддзялення таварыства савецка-кітайскай дружбы, аб асабістых уражаннях ад паездкі ў Кітай, аб фактах культурнага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі.

Паводле жадання кітайскіх пісьменнікаў ім была прадастаўлена магчымасць наведаць адно з прадпрыемстваў горада Мінска — гадзіннікавы завод «Прамень». Госці пабывалі ў зборачным цэху завода, гутарылі з кіраўнікамі прадпрыемства, цікавіліся ходам перабудовы ў нашай прамысловасці.

На развітальнай гутарцы я папрасіў кіраўніка дэлегацыі У Цяна напісаць некалькі слоў на памяць. Вось што ён напісаў: «Беларусь, Мінск зрабілі на мяне незабыўнае ўражанне. Я адчуваю, што гэтыя дні гасцявання на Беларусі — самая радасная часіна майго жыцця. Калі ў мяне будзе яшчэ адна магчымасць прыехаць сюды разам са сваімі сябрамі, то я буду самым шчаслівым старым. Дзякуй маім дарагім сябрам! Да сустрэчы!» Салідарызуючыся з ім, услед за подпісам У Цяна паставілі свае подпісы У Тайчан, Лі Шыфэй, Гуань Вэньсюэ. (Ніжэй узнаўляецца фотакопія гэтага аўтографа кітайскіх гасцей).

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

**Імя Яніса Петарса, выдатнага латышскага паэта, першага сакратара праўлення СП Латвіі, стала шырока вядомае ў краіне дзякуючы яго вострапубліцыстычным, сугучным духу перабудовы выступленням ва ўсесаюзным друку — на старонках «Правды», «Литературной газеты», «Труда» і іншых выданняў. Своеасаблівым працягам гэтай размовы з чытачом з'яўляецца артыкул пісьменніка «Я веру ў здаровыя сілы», змешчаны нядаўна ў адным з вераснёўскіх нумароў рускамоўнай газеты «Советская молодежь» (орган ЦК ЛКСМ Латвіі).**

**Грамадзянскі пафас артыкула, думкі і назіранні пісьменніка-камуніста падаліся нам вартымі ўвагі нашага чытача. Яны шмат у чым перагукаюцца з тымі дыскусіямі, якія ідуць сёння ў беларускім друку, у тым ліку і на старонках «ЛіМа». За гэтай пераклічкай—агульнасць праблем і падыходаў да іх вырашэння, рэальны — а не паказны, не на словах, — інтэрнацыяналізм. Вось чаму мы і вырашылі перадрукаваць у перакладзе артыкул Я. Петарса з нязначнымі скарачэннямі.**

# Я веру ў здаровыя сілы...

**Яніс ПЕТАРС**

**Палемічны роздум, выкліканы чытаннем прэсы і ўдзелам у палітычным жыцці Латвіі**

ЧЫМ ДАЛЕЙ развіваецца і чым больш незваротнай становіцца перабудова, тым відавочней, што гэта працяглы, дыялектычна бесперапынны і драматычны працэс. Нашу грамадскую перабудову вельмі ўскладняе тое, што ў нашым распараджэнні няма і не можа быць праекта, які трэба было б літаральна ўзнавіць, перанесці з паперы ў жыццё. Яшчэ горш — у нас няма нават грунтоўных навуковых даследаванняў аб грамадскай сістэме, якую мы перабудоўваем. Проста даследаваць няма часу, гэтую работу трэба рабіць разам з перабудовай. Кожную секунду мы рызыкуем наткнуцца *на нечаканыя адкрыцці* — аказваецца, у будынку сацыялізму, які мы перабудоўваем, невукі ці зламыснікі мінулых гадоў здолелі шчыльна замураваць ці хоць бы забраць кратамі светлыя і шырокія вокны, прарубленыя ў першыя гады рэвалюцыі; часам мы знаходзім дзверы, якія зусім не патрэбны шырокім народным масам, нават наадварот — іх адчыняюць і зачыняюць толькі дзеля таго, каб сытай бюракратыі было што адчыняць і што зачыняць, каб ёй было куды зайсці раніцай і адкуль выйсці вечарам. Гэтыя дзверы трэба замуроўваць. Адкрываем і дагэтуль нікому не вядомыя апартаменты, дзе пануе поўная пустэча і ўсеабдымная цемра. Мы адбіваем цвілыя кавалкі тынкоўкі ў адным з пакояў сацыялізму, а пад ёю ў яркім сонечным святле адкрываецца «буржуазны» і ўсё ж *шэдэўр — насценны роспіс*, фрэска, народны арнамент, гістарычныя традыцыйныя спалучэнні колераў. Усё гэта ў «пралетарскай» паспешлівасці і пад кіраўніцтвам карыфея замазваў не адзін домакіраўнік, што выдаваў сябе за камуніста.

Самыя небяспечныя ў нашым будынку *падземныя* камунікацыі, таму што ў падвалах іржавеюць міны. Яны могуць выбухнуць ад першага парыву ветру, ад старасці, забраўшы з сабою жыцці многіх.

Таму пад зямлю нельга пускаць тых, у каго гарачыя галовы, там павінны працаваць прафесійныя мінёры, якія выкарыстоўваюць самыя сучасныя электронныя сродкі разміравання XX стагоддзя, гэта значыць — інтэлект.

Працягнуўшы аналогію з перабудовай дома па неіснуючым праекце і з недастатковымі ведамі аб структуры перабудоўваемай сістэмы, хачу папярэдзіць усіх пра самае небяспечнае — пра істэрыку. У нас проста няма права на яе, бо істэрыкі, паводзячы сябе істэрычна, могуць справакаваць выбух. І хоць мы з кожным днём усё больш паглыбляемся ў невядомае і ніколі не існаваўшае па-сапраўднаму — гэта значыць у сацыялізм, у нас усё ж ёсць і адна вялікая перавага, а менавіта — **горкі ўрок гісторыі.** Па-мойму, менавіта гэты ўрок — у аснове дзейнасці Міхаіла Гарбачова і Аляксандра Якаўлева, Віталія Кароціча і Андрэя Сахарава, Людмілы Азаравай і Джэмы Скулме, Яна Страдыня і Эдвіна Інкена, Яна Луцана і Марыны Касцянецкай, Адольфа Шапіры і Аляксандра Ніканава.

Ураўнаважаныя, спакойныя, дасведчаныя ў сваёй справе людзі, якія абапіраюцца і на класавае, і на агульначалавечае, здолеюць з хаосу, пакінутага горкай гісторыяй, узвесці такі грамадскі будынак, у якім народы будуць адчуваць сябе раўнапраўнымі і раўнацэннымі, нескаронымі і незасмучанымі. Гэта абавязкова збудзецца, калі мы хочам адрадзіць той сацыялізм, пра які заявіла рэвалюцыя і які быў забіты Сталіным.

Сёння — амаль праз тры месяцы пасля пленума праўлення Саюза пісьменнікаў Латвіі з удзелам кіраўнікоў іншых творчых саюзаў і экспертаў — я хачу падзяліцца пасобнымі развагамі. Яны ўзніклі ў выніку актыўнага палітычнага жыцця — пасля сустрэч у якасці дэлегата XIX партканферэнцыі з тысячамі людзей, пасля маіх сустрэч з людзьмі ў якасці паэта і публіцыста. Мноства думак выклікаюць горы пісьмаў, якія я атрымліваю штодзённа, думаць змушае і прэса, у якой паяўляюцца самыя розныя меркаванні. І, вядома ж, у гэтых меркаваннях адчувальны не толькі здаровы розум. Экстрэмісцкая істэрыка асабліва адчуваецца ў паасобных раённых, гарадскіх, шматтыражных газетах, нярэдка і ў рэспубліканскіх выданнях. А карэспандэнт газеты Прыбалтыйскай ваеннай акругі «За Родину» дайшоў да таго, што ўклаў у вусны генерала словы, якіх гэты высокапастаўлены палітработнік наогул не гаварыў.

Усё гэта робіць нас уважлівымі і змушае думаць — ці не імкнецца адміністрацыйная бюракратыя выкарыстаць дэмакратыю, каб разыграць самы небяспечны тур — нацыянальныя адносіны. Маўляў, станем нацкоўваць, падзяляць і расколваць — тады і будзем кіраваць.

Перш чым пераходзіць да канкрэтных прыкладаў, дазволю сабе ўспомніць пра 28 сакавіка 1988 года. У гэты дзень на мерапрыемстве, прысвечаным 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Горкага, мне і маім калегам, вядомым савецкім пісьменнікам, выпаў вялікі гонар — пагутарыць з Міхаілам Сяргеевічам Гарбачовым у нязмушанай і нефармальнай абстаноўцы. Гаворка праходзіла за кулісамі Маскоўскага Мастацкага тэатра паміж урачыстым сходам і спектаклем. У час гэтай гутаркі я ўпершыню даведаўся аб горычы і непакоі, якія выклікаў у лідэра нашай перабудовы артыкул Андрэевай у «Советской России». У той вечар я пашкадаваў, што не з'яўляюся чытачом гэтай газеты і не магу ацаніць артыкул Андрэевай. Рэдакцыйны артыкул «Правды» за 4 красавіка зрабіў Андрэеву не толькі сумна вядомай, але і папулярнай... Недарэмна ж Міхаіл Сяргеевіч папярэдзіў нас у той вечар, што на гістарычным этапе, які мы цяпер перажываем, на авансцэну вылезуць самыя розныя элементы — ад «манархістаў» да «анархістаў».

І сапраўды. Дыяметральна *супрацьлеглыя пункты* гледжання са сваёй істэрычнай левай ці правай паказухай навязваюцца сутнасці перабудовы, збіваючы з толку людзей, якія не арыентуюцца ў палітыцы з прафесійнай свабодай і якіх у «палітычнай музыцы» больш прываблівае па-эстраднаму гулкі гром барабанаў.

І ў нашай рэспубліцы ў «андрэеўшчыны» ёсць свае палкія прыхільнікі. І не толькі ў друку, але і на адміністрацыйных мітынгах, і нават... на афіцыйных форумах. Істэрыка, якую выклікае развіццё дэмакратыі ў многіх быццам бы паважаных людзей, сведчыць, што яны думаюць так: будзем хутка развіваць *эканоміку, але без лішніх* дыскусій аб нашай гісторыі, без асаблівага раўнапраўя ў выкарыстанні моў, без спынення бяздумнай міграцыі, без зацвярджэння нацыянальнага яднання ў сэрцы, а таксама і ў чыста візуальнай сімволіцы, без суверэннай рэспублікі, без твораў Салжаніцына і поглядаў Сахарава і г. д. Паважаныя таварышы, не забывайце аднаго — без усяго таго, што я тут пералічыў, таго, што і стварае свабоду, наш мозг не стане свабодным. Гуманітарна скаваны мозг не ў стане вынайсці камп'ютэр, добра ўзараць зямлю, пабудаваць самалёт. Стварыць усе названыя мною каштоўнасці ў такой колькасці, каб яны ў цывілізаваным грамадстве сталі рэальна даступнымі ўсім. Мозг, які трымаюць у гуманітарным рабстве, кампраметуе сацыялізм, а ў некаторых галінах— *асабліва звязаных з навукова*-тэхнічным прагрэсам — прыводзіць сацыялізм да цемрашальскай адсталасці ў параўнанні з капіталістычнымі дзяржавамі. Роскві эканомікі, навукі і тэхнікі немажлівы без праў і свабод чалавека, без вызвалення літаратуры і мастацтва ад любой цэнзуры.

Па-мойму, ідэалагічная цэнзура патрэбна разгневанаму рабу, свабодных людзей дысцыплінуе ўласнае сумленне.

Аб чым думаюць сёння трубадуры «андрэеўшчыны», якія істэрычна пагражаюць палітычнаму кіраўніцтву рэспублікі за тое, што дэмакратызацыя ў Латвіі паспяхова развіваецца? На словах яны, хоць і праз зубы, прызнаюць ідэю стварэння прававой дзяржавы, а на справе — патрабуюць адміністрацыйных рэпрэсій не толькі ў дачыненні да асобных парушальнікаў парадку, але і ў дачыненні да ўсяго глыбокага палітычнага працэсу, які адпавядае рэзалюцыі XIX партканферэнцыі аб палітычнай рэформе. Так, лозунг «Мігранты — латвійскі Чарнобыль» сведчыць аб вельмі нізкай культуры людзей, балансуе на мяжы цынічнага расізму. Але прысмак расізму ёсць і ў артыкуле дацэнта педагагічнага інстытута імя В. Лаціса В. Сандара «Нацыянальны ці нацыяналістычны», апублікаваны ў ліепайскай газеце «Коммунист» 28 чэрвеня гэтага года:

**«Што ж на самай справе адбываецца зараз? Выкарыстоўваючы дэмакратыю і галоснасць, хаваючыся за перабудовай, выступаючы ў якасці самых сапраўдных прыхільнікаў перабудовы, нацыяналісты арганізоўваюцца, мэтанакіравана займаюцца арганізатарскай і ідэалагічнай работай. Нацыяналістычна настроеныя элементы прэтэнцыёзна выступалі на пленуме Саюза пісьменнікаў. Клуб абароны асяроддзя (*якому трэба было б займацца* абаронай асяроддзя) арганізоўвае кампанію за рэабілітацыю чырвона-бела-чырвонага сцяга. Праводзяцца мерапрыемствы для таго, каб па ўзору Эстоніі стварыць Народны фронт (нібы для барацьбы з бюракратызмам), сцягам якога, напэўна, будзе чырвона-бела-чырвоны. Нацыяналісты выкарыстоўваюць нацыянальныя пачуцці латышскага народа, рост нацыянальнай самасвядомасці для таго, каб сабраць латышскі народ пад чырвона-бела-чырвоным сцягам. Пад гэтым сцягам і знакам сонца быў выдатна наладжаны этнаграфічны фестываль «Балтыка-88». Асмелюся нагадаць, што знак сонца быў на кукардах фуражак у салдат арміі буржуазнай Латвіі, а гэтая армія была арганізавана і выхавана для барацьбы з бальшавікамі, Савецкай Латвіяй і Расіяй. Знак сонца быў і на падпольных выданнях нацыяналістычных бандытаў *пасля* Вялікай Айчыннай вайны.**

**Усё гэта спараджае неразуменне, абгрунтаваныя сумненні і абурэнне ў рускіх, іншых нелатышоў рэспублікі, якія складаюць палову жыхароў Латвіі, і сярод інтэрнацыянальна настроеных латышоў. Незадаволенасць выклікае і прымірэнцкая пазіцыя некаторых кіраўнічых ідэалагічных работнікаў рэспублікі, пастаяннае адступленне пад націскам *нацыяналістычных элементаў*. Дзе застаўся іх класавы падыход, дзе кіруючая роля рабочага класа (калі ад імя ўсяго народа гавораць новаспечаныя прарокі з творчай інтэлігенцыі?).**

**У такіх умовах трэба яшчэ больш мацаваць дружбу латышскага і рускага народаў, адзінства латышскіх і рускіх рабочых, камуністаў. Зыходзячы з рашэнняў XXVII з'езда КПСС і XIX партканферэнцыі, трэба даць рашучы адпор прошукам латышскіх нацыяналістычных экстрэмістаў. Развіццё падзей у Нагорным Карабаху, у Армянскай і Азербайджанскай ССР неадкладна вымагае — не дапусціць абману гучнымі лозунгамі, усіх крыкуноў ацэньваць па іх рабоце па *рэалізацыі перабудовы*».**

ВЫКАЗАНЫЯ тут думкі не толькі хаатычныя, як, скажам, падзел жыхароў рэспублікі на дзве дзіўныя часткі, з аднаго боку — «рускія і іншыя нелатышы», якія складаюць палову жыхароў Латвіі і чые погляды падтрымліваюць «інтэрнацыянальна настроеныя латышы».

Хочацца спытацца, хто даў В. Сандару права гаварыць ад імя ўсіх рускіх і «нелатышоў» рэспублікі? І якія выкладкі дацэнта і нават кандыдата філасофскіх навук В. Сандара з выпадку працэнтных адносін «інтэрнацыянальна» і «неінтэрнацыянальна» настроеных латышоў у Латвіі? В. Сандар не задавальняецца тым, што, недвухсэнсоўна абараняючы «парадак перыяду культу асобы і стагнацыі», ён у канцы артыкула без ценю збянтэжанасці згадвае і XXVII з'езд КПСС і XIX партканферэнцыю. Добра ведаючы, што газета «Коммунист» дубліруецца на рускую мову, таварыш яшчэ раз выкарыстоўвае магчымасць пасталінску дагматызаваць гісторыю, пасеяць недавер'е да *пленума праўлення Саюза пісьменнікаў*, даць скажонае ўяўленне пра старажытныя латышскія міфалагічныя знакі — гэта значыць, ён спрыяе развіццю канфлікту паміж народамі, дэзінфармуе іх. Элементарнай сціпласці ў яго не хапіла нават на тое, каб не заплямiць латышскі знак сонца ў свядомасці рускамоўных чытачоў. Ці з'яўляецца гэта экстрэмісцкай істэрыкай? Вядома, і досыць «афіцыйнай», бо тытулы аўтара артыкула непараўнальныя са званнем члена Клуба абароны асяроддзя, лідэрам якога В. Сандар дазваляе «займацца аховай асяроддзя», але ў той жа час адміністрацыйнай бюракратыі, у ліку якой ёсць і тыя, хто спустошваў Латвію, дацэнт не раіць не гаварыць з трыбуны пра палітыку. Ці спрыяе артыкул В. Сандара супрацоўніцтву народаў, якія жывуць у Латвіі, іх узаемапа*вазе і ўзаемаразуменню*? Вядома ж, не. А калі не, значыць, яна перашкаджае і перабудове. Адзінае «добра» ў дадзеным выпадку гэта тое, што артыкульчык Сандара прымітыўны, можа быць, нават знарок прымітыўны для таго, каб яго гэтак жа прымітыўна разумець. Ясна. што сення большая частка грамадзян *Латвіі* — латышоў, рускіх, украінцаў, беларусаў, яўрэяў, палякаў, літоўцаў — правільна зразумее артыкул, напісаны з такой адкрытай злосцю. Яны ўспрымуць яго як атавізм халоднай вайны, як водгулле таго часу, калі кіраўнічыя ідэолагі лічылі сваёй задачай утрымліваць грамадства ў заўсёдным напружанні, нервознасці, у страху перад «дзяржаўным пераваротам», «ворагамі народа» і «буржуазнымі нацыяналістамі»... Хочацца спытаць, няўжо гэтая напружанасць сталінскага часу, *неабходная для* таго, каб адцягваць увагу ад палітыкі ліквідацыі сацыялізму, ад правакавання голаду, ад знішчэння камуністаў, ад забойства лепшых камандзіраў Чырвонай Арміі, ад вынішчэння інтэлігенцыі, ад высылкі цэлых народаў, не спрыяла заняпаду эканомікі, дэградацыі маралі, заплямванню чырвонага сцяга? Няўжо гэта неабходна нам і сёння?

Ёсць людзі, якія любымі сродкамі спрабуюць драматызаваць сітуацыю, яны падбухторваюць праваахоўныя органы і палітычнае кіраўніцтва да адміністрацыйнага падаўлення, забываючы, што XIX партканферэнцыя на першае месца высунула метады палітычнага пераканання. Так, напрыклад, газета «Орбита», што выходзіць на вытворчым аб'яднанні «Альфа», піша:

**«...Чаму бяздзейнічаюць органы аховы правапарадку, якія ўтрымліваюцца за кошт зробленых намі сродкаў? Чаму маўчыць ЦК Кампартыі Латвіі? Такая пазіцыя спараджае недавер'е ў адносінах да гэтых органаў з боку рабочых і ў асяроддзі працоўнай інтэлігенцыі».**

**(Заканчэнне на стар. 12).**

памяці», паэтэса гаворыць аб самым запаветным, без чаго чалавеку нельга пражыць:

**Сам песняй падзяліся, нібы хлебам,**
**Свайго народа мову беражы.**
**Няхай дабро трымае наша неба,**
**Дабру ў няпэўным свеце памажы.**

Чалавецтва павінна вырашаць свой лёс, глыбока разумеючы драматычныя абставіны нашага часу. Ад трывог веку нельга адгарадзіцца, бо «мы на зямлі жыццём адзіным звіты ў цесныя спрадвечныя вузлы».

Такая склалася гістарычная сітуацыя, што «і лёс Зямлі, і зоркі дальняй у чалавецтва на плячах». Адкрыта, рашуча, з усёй душэўнай страсцю гаворыць паэтэса пра самае трывожнае, балеснае на зямлі:

**У войнах, у палітыцы, сяўбе**
**Ты, чалавек, затузаны, стамлёны.**
**Утаймуй ліхое, не забі сябе,**
**Засей жыццём і хлебам палігоны.**

Кніга З. Дудзюк «Абрысы лета» сведчыць не толькі пра яе творчыя набыткі, але і пра пэўныя мастацкія пралікі. Сустракаюцца радкі і вершы, напісаныя, на жаль, без асаблівага напружання душэўных сіл, інтэлекту. Не ўдаўся, на наш погляд, такі верш, як «Шчаслівая субота», дзе распавядаецца *пра бабулю Кацю, пра яе клопаты* адрамантаваць плот, пра тое, як яна свеціцца ад шчасця і «варыць на сем страў абед». Нічога новага не адкрываюць нам і «Балада пра маці», а таксама вершы «Пакінулі луг мой дзівосы», «Шчасце», «Каб мне не каяцца ў грахах». Яны не ўражваюць паэтычнай свежасцю, навізной мастацкіх дэталяў, нейкім новым паваротам думкі, пачуцця.

Такіх вершаў у кнізе мала, і не яны складаюць творчы актыў здольнай паэтэсы, якая ўмее мысліць вобразна, свежа, арыгінальна. Наколькі пільны мастацкі зрок у паэтэсы, гавораць самі за сябе яе вобразы, тая ж «бярозка ў сасонніку чорным», што, «як белая жылка дрыжыць». І таму голас Зінаіды Дудзюк не губляецца ў шэрагу іншых паэтычных галасоў.

**Міхась ГУБЕРНАТАРАЎ.**
г. Гродна.

---

шчасці, нездарма ён параўноўваецца з сонцам.

**Хай бохан,**
**які зарумяніцца ў печы,**
**як сонца,**
**прыходзіць**
**у дом чалавечы!**
**Пасля ж**
**для сяўбы адабранае збожжа**
**у полі**
**нанова пачне**
**падарожжа...**

Хай бы гэтымі радкамі і закончылася паэма, бо фінальнае патэтычнае чатырохрадкоўе з «урадлівымі нівамі» і «залатым ураджаем» ненатуральна выпячваецца... Думаю, што тут аддадзена даніна не лепшым традыцыям, якія зараз пераадольваюцца нашай паэзіяй. Добра, што ў «Чарадзейнай скарбонцы» такія мясціны — выключэнне. Напісаныя ў лепшых фальклорных традыцыях, творы П. Макаля вызначаюцца нацыянальнай своеадметнасцю. Гэта можна сказаць і пра нізку загадак, у якой слова адгадкі рыфмуецца з адным радком верша.

**Па панелі ходзіць робат —**
**У яго гумовы хобат.**
**І з усіх гырчыць ён сіл,**
**І глытае ўсюды пыл,**
**Суне ўсюды доўгі нос**
**А завецца**
**(Пыласос).**

Кніга напісана з любоўю і павагай да дзяцей, са шчырым жаданнем крануць іх сэрца, абудзіць прагу харастра, прыгажосці.

Вядомы літоўскі паэт Марцінкявічус пісаў, што не толькі ў буйным эпічным, але ў любым сапраўды мастацкім творы «прысутнічае «канцэпцыя свету і чалавека». Прысутнічае, безумоўна, яна і ў лепшых творах для дзяцей Петруся Макаля.

**Маргарыта ЯФІМАВА.**

---

**Сяргей Грахоўскі адзначае 75-гадовы юбілей. Пражытыя тры чвэрці стагоддзя, здаецца, не састарылі пісьменніка. Ён шмат піша і перакладае, часта выступае перад чытачамі, любіць падарожнічаць.**

# «Люблю ўсе колеры жыцця»

Не, не знойдзем мы ў апошніх кнігах С. Грахоўскага («І радасць і боль», «Верую», «Асеннія гнёзды» і інш.) стомленасці ад прайшоўшых гадоў, сталай супакоенасці, халаднаватай сузіральнасці. І сёння ён можа радасна застыць у плёскаце і гудзе навальнічнага дажджу, перапоўнены харастром прыроды і жыцця («Цвітуць рамонкі»), чуць, як «па полі імчыцца зіма маладая» («Маладая зіма»). Пісьменнік востра рэагуе на радасці і беды, што *спадарожнічаюць* сучаснаму чалавецтву. Яго голас гучыць у абарону міру і ў абарону прыроды, помнікаў гісторыі, роднай мовы, чалавечай годнасці. Яго трывожаць апусцелыя вёскі, якія сталі чужымі тым, хто тут нарадзіўся і вырас. З горкай ironіяй звяртаецца С. Грахоўскі да сваіх сучаснікаў:

**Нам за плуг ужо не брацца.**
**Прывучаем слых і зрок,**
**Каб найлепш уславіць працу**
**Спрацаваных мацярок,**
**Расказаць, як Тэклі, Стэфы**
**Гаспадарку паднялі...**
**Ну, а мы?**
**Мы — толькі шэфы**
**Нашай дзедаўскай зямлі.**
**(«Зварот»).**

Ён выкрывае кар'ерыстаў і прыстасаванцаў, людзей несумленных і здрадлівых. А побач з гэтым жыве на старонках твораў чыстае, трапяткое пачуццё замілаванасці і кахання...

«Люблю ўсе колеры жыцця» — сказаў у адным з ранейшых твораў паэт пра сваё стаўленне да свету. Гэта любоў не ахілала, не зменшылася і сёння.

Гады ж нагадваюць пра сябе ўспамінамі, якія неўпрыкмет замяняюць мары і вяртаюць на пройдзеныя сцежкі, імкненнем асэнсаваць уласнае жыццё, падлічыць набыткі і страты. І нараджаюцца тады радкі, напоўненыя восеньскім настроем. Аднак восень у творах С. Грахоўскага, хоць і стала з нейкага часу досыць частай госцяй, усё ж не з'яўляецца парой суму і смутку. Яна — пара засяроджанага і няспешнага роздуму, заглыбленага погляду на сябе і ў сябе.

Варта адзначыць, што пісьменнік ставіцца да ўласных набыткаў без скідкі, часам нават занадта патрабавальна. «...Не многа значыць запоўнены нярoўны мой засеў», — прызнаецца ён у вершы «Фінал загадкі». Аднак за гэтым скрушлівым прызнаннем — не адчай і не папрок няласкаваму лёсу, а імкненне «з апошніх сіл рабіць усё, што можна, каб у здабытках павузеў прагал».

Азіраючыся на творчы засеў С. Грахоўскага, здзіўляешся яго жанравай разнастайнасці: вершы і апавяданні, паэмы, аповесці, нарысы, успаміны, эсэ, *артыкулы, пераклады, творы для* дзяцей — звыш трох дзесяткаў кніг. Ні ў адным з названых жанраў пісьменнік не адчувае сябе чалавекам, які ўзяўся не за сваю справу. Вядома, не ўсе яго зборнікі і кнігі сталі з'явай літаратуры, але ўсе яны напісаны сумленна і шчыра, з тым *выдатканнем душэўных сіл*, якое немагчыма не паважаць.

У час абнаўлення грамадскага жыцця ў многім абнаўляецца і пісьменнік (калі, вядома, ён змог захаваць здольнасць да гэтага), быццам скідае з сябе путы ранейшых забарон і рэгламентацый. А яшчэ гавораць у такіх выпадках, што ў творцы *з'явілася другое дыханне*, такі імклівы ўзлёт у творчасці. Што значаць для С. Грахоўскага сённяшнія перамены ў грамадскай атмасферы, калі «праўда стала Праўдай сапраўды», можна меркаваць па ягонай творчай і грамадзянскай актыўнасці.

У апошніх творах С. Грахоўскага *вельмі заўважна, як, па* словах самога аўтара, «выпроствaецца» яго душа. Параўнаем хоць бы ўспаміны пра драматурга Васіля Шашалевіча, змешчаныя ў зборніку «Так і было» («Аўтар «Сімфоніі гневу») і надрукаваныя гэтым годам у «Маладосці». Не, С. Грахоўскі і там і тут не адступае ад праўды. Але ў адным выпадку быццам усечаная, укарочаная. У другім, калі аўтар мог вольна выказацца пра ўсё, што чуў і бачыў, яна не толькі больш поўная. Больш эмацыянальная, непасрэдная, жывое сведчанне трагізму часу. Пісьменнік нарэшце смела, адкрыта загаварыў пра тое, што дзесяцігоддзі вымушаны быў насіць у сабе.

У вершы «Страчаная старонка» (прадапошні паэтычны зборнік «Верую», 1987 г.) С. Грахоўскі згадвае, што ў яго біяграфіі нестае самай горкай і драматычнай старонкі. Сапраўды, гэта старонка жыцця пісьменніка да зусім *нядаўняга часу заставалася быццам* вырванай, невядомай. Быццам у 37-ым юнака паклікала на лесанарыхтоўкі ў Горкаўскую вобласць рамантыка невядомых дарог, а ў 50-ым за тры гады, пражытыя на радзіме, яму зноў апрыкралі родныя мясціны і ён з'ехаў шукаць шчасця ў Сібір. Гэта той чалавек, які напісаў па вяртанні дамоў такія прачулыя словы любові, шчырыя і простыя, як і зямля, што яго нарадзіла.

**...Напэўна б са светам расстаўся лягчэй,**
**Каб тых не запомніў кастроў і начэй,**
**Каб дзічкі вясной на мяжы не цвілі,**
**Каб песень купальскіх не чуў анікол і,**
**Каб жытам не пахла даспелае поле,**
**Каб так не любіў беларускай зямлі.**
**(«З гадамі маленства здаецца бліжэй...»).**

Успамінаю сваё знаёмства з Сяргеем Іванавічам, якое адбылося ў самым канцы 60-ых гадоў. Перад пераможцамі рэспубліканскага конкурсу школьных сачыненняў да 50-годдзя БССР выступалі пісьменнікі. Грахоўскі не выступаў, толькі прысутнічаў, а як закончылася мерапрыемства, адразу ж накіраваўся да выхаду. Злавіла яго за крысо ўжо на лесвіцы, папрасіла падпісаць кнігу. Завязалася *кароткая гаворка:*

— Чаму гэта вы кінуліся да мяне? Вунь Іван Шамякін раздае аўтографы (Іван Пятровіч сапраўды быў шчыльна акружаны ўдзельнікамі сустрэчы).

— Але ў мяне ёсць ваша кніга...і падабаюцца вашы вершы.

— Дык чаму тады на рускай мове? На беларускай не знайшлося?

Разгублена тлумачу, што выпадкова ўбачыла «Гориводу» ў кіёску, калі ішла на сустрэчу, што пашукаць іншы зборнік не мела магчымасці. Кнігу Сяргей Іванавіч падпісаў і развітаўся, пакінуўшы ў маёй досыць уражлівай на той час душы быццам нейкую стрэмку: чаму ён такі? Чаму не чакаў, што да яго падыдуць (нас запрашалі да гэтага)? Чаму проціпаставіў сябе Шамякіну? Магчыма, усё тлумачылася вельмі проста: пісьменнік некуды спяшаўся ці кепска на тую хвіліну сябе пачуваў... Але тады такое тлумачэнне мне і ў галаву не прыйшло, чамусьці яго не магу прыняць і сёння.

А з другога боку, не было ў гэтага чалавека зайздрасці да чужой славы і вядомасці (у той час я гэта інтуітыўна адчувала, цяпер — упэўнена). Вельмі мала хто з пісьменнікаў жыве ў такой ступені клопатам не даць згубіцца ў лёгкаважнай памяці сучаснікаў падзеям, імёнам, творам. Будзіруюць нашу памяць успаміны С. Грахоўскага (яны сабраны ў зборніку «Так і было», 1986 г.) пра тых, з кім таварышаваў, быў знаёмы, сустракаўся ў маладосці і ў сталым узросце. А гэта, па сутнасці, уся беларуская літаратура 20-ых і 30-ых гадоў, многія знакамітыя прадстаўнікі іншых літаратур. Піша ён пра паэтаў, празаікаў, крытыкаў, драматургаў з вялікай павагай і тактам, з непадробнай сімпатыяй да кожнага з іх. Побач з успамінамі, артыкуламі пра творчасць колішніх сваіх равеснікаў і сяброў, жыццёвы шлях якіх аказаўся намнога карацейшым, С. Грахоўскі робіць усё магчымае, каб іх творы сталі вядомы чытачу. Думаецца, пісьменнік мае поўнае маральнае права сказаць былым таварышам і паплечнікам:

**Не знойдзе самы клапатлівы,**
**Дзе ваш прапаў апошні след,**
**Хоць толькі знікнеце тады вы,**
**Як я пакіну гэты свет.**
**(«Балючая памяць»).**

Няхай *першая* сустрэча з С. Грахоўскім так і застаецца нявытлумачанай. Істотна тое, што яна прыцягнула ўвагу да асобы пісьменніка, прымусіла думаць.

Што я, школьніца, ведала пра яго? Жыве недзе ў далёкай сталіцы паэт, піша вершы, друкуецца. Здаецца, усё як мае быць. Нічога асаблівага не сказала мне ў той час і прадмова А. Лойкі да зборніка 1968 г. «Вершы», прынамсі, вось гэтыя радкі: «Цікаўны чытач, гартаючы старонкі, несумненна заўважыць, што даты, якія стаяць пад вершамі, — даты апошніх дзесяці — дванаццаці гадоў. Паэту ўжо было за сорак, калі пісаліся сабраныя тут вершы. Але ці заўважылі вы, што яны — творы немаладога ўжо аўтара? Наўрад ці! У іх столькі маладой радасці, духоўнага здароўя, запалу і энергіі, што ім могуць пазайздросціць і бязвусыя яшчэ юнакі. Такі ўжо характар паэта, такое ўжо стаўленне яго да жыцця!» І далей: «Пісаць вершы Сяргей Грахоўскі спрабаваў яшчэ ў 30-ыя. (Першы твор быў надрукаваны ў 1926 г., калі будучаму пісьменніку споўнілася трынаццаць. — **Т. Г.**). Паэтам, аднак, ён стаў толькі ў другой палавіне 50-х». «Цікаўны чытач», безумоўна, адчуў у тагачасных творах С. Грахоўскага маладую радасць, запал і энергію, чысціню пачуццяў, на што слушна ўказваў аўтар прадмовы. Але ён не ацаніў па-належнаму гэтыя якасці, бо не заўважаў (і з «падказкамі» А. Лойкі) «вырваную старонку», а заўважыўшы праз гады, не мог уявіць яе драматызму.

Таму, пэўна, сёння многае апякае ў новым зборніку паэта *«І радасць і боль»* (1988 г.) Як, напрыклад, адказ на досыць частае ў нашым жыцці пытанне да чалавека немаладога «ці не ветэран вайны ён?»:

**— Я — ветэран пакутаў без віны,**
**І стаж мой — два дзесяцігоддзі...**
**Даўно рубец на целе не баліць,**
**А вось душу ніяк не загаіць.**
**Было б збавеннем не прыйсці з вайны,**
**Чым зведаць столькі гора без віны.**
**Ды і цяпер смыліць у горле ком...**
**(«Шчыры адказ»).**

Паэма «Балючая памяць», таксама ўключаная ў зборнік, нарэшце напоўніла рэальным жыццёвым зместам скупыя радкі біяграфіі, назаўсёды ўзарваўшы іх спакойную бясстраснасць: «працаваў на лесанарыхтоўках», «жыў за межамі рэспублікі».

**Відаць, і праўда, — дагараю,**
**Нібы фіціль; увесь апух,**
**Як ачмурэлы, пазіраю,**
**Пакуль зусім не выйшаў дух...**

**Да нар прыпнутага папружкай**
**Дні па чатыры мерцвяка**
**Хавалі часам пад дзяружкай**
**Сабе для лішняга пайка...**

Вось так «працаваў» і так «жыў».

У святле такога ведання пісьменніцкага лёсу зусім па-іншаму ўспрымаюцца яго неадначойчы заяўленыя ў творах імкненне да дабраты і вера ў праўду, сумленнасць, справядлівасць. Радкі, што помняцца са школьных гадоў, «Усё праходзіць, быццам дождж няроўны, — і боль, і злосць, і дробная брыда, а застаецца важны *і галоўны* і самы светлы талент — дабрата», цяпер не здаюцца проста ўдалым афарызмам. Яны выпакутаваны, аплачаны лёсам.

Невыпадковай сёння бачыцца і назва першага зборніка С. Грахоўскага «Дзень нараджэння» (1958 г.), хоць, магчыма, сам аўтар укладваў у яе іншы сэнс. Са спазненнем, насуперак усім бедам і несправядлівасцям нарадзіўся пісьменнік. Прыйшоў у літаратуру. З нявыстуджанай на крыжавых дарогах, жывой душой, якая давеку не стоміцца любіць жыццё.

**Таіса ГРАМАДЧАНКА.**

# Я веру ў здаровыя сілы...

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).**

Паважаныя таварышы, няўжо вы не бачыце нічога лепшага за адміністрацыйныя метады для перабудовы нашага грамадства? Так, я згодзен, што свіст на мітынгу ў той час, калі з трыбуны гавораць на рускай мове, гэтак жа як і поўная адсутнасць цікавасці да выступлення на заводскім сходзе наіўнага чалавека, які «рашыўся» гаварыць на латышскай (воклічы «Гавары па-руску!»), сведчаць аб вельмі нізкім узроўні культуры як у рускай, так і ў латышскай частцы грамадства — гэта значыць на ўсёй нашай рэспубліцы. Што будзем рабіць? Будзем арыштоўваць тых, хто свішча на мітынгах, тых, хто дэманстратыўна галёкае на сходах ці громка патрабуе гаварыць на адзіна зразумелай яму мове? Мы асудзім іх на пэўны тэрмін і будзем наіўна спадзявацца, што з турмы выйдуць перавыхаваныя «савецкія патрыёты» і «інтэрнацыяналісты»? І ці не вырас цень ад турмы ў нашай дзяржаве ўжо настолькі, што ён закрывае нам сонца ў будынку сацыялізму? Ці не павінны мы ў перыяд перабудовы перабудаваць і нашы адносіны да асуджэння ўласных дзяцей, якім мы не змаглі даць урокаў сапраўднага інтэрнацыяналізму? Ну добра, аднаго маладога чалавека мы пасадзім у турму за нацыяналістычны лозунг, другога (такога ж маладога) — за шавіністычны, выразаны на сядзенні ў трамваі, спаймаем юнака, настроенага па-антысеміцку, і нашы турмы папоўняць свой кантынгент. Але ці атрымаем мы душэўнае задавальненне? І хіба гэтае «запалохванне» палепшыць скалечаныя нацыянальныя адносіны, якія складваліся на працягу гадоў і якія з'яўляюцца вынікам жорсткага металічнага перапляцення сталінізму і берыізму, а таксама брэжневізму, чурбанавізму і рашыдаўшчыны. Ці не лепш нам усім разам закрыць дарогу такой безадказнай і рызыкоўнай гульні з узаемаадносінамі народаў, якой з'яўляецца крытыкуемы мною артыкул у ліепайскім «Коммунисте»? Не, я не заклікаю разважаць прымітыўна — кожны публікуе тое, што можа. Але калі мы рэагуем на выкрыкі прымітыўных акселератаў, дык, відавочна, трэба рэагаваць і на такіх жа па-экстрэмісцку настроеных таварышаў пенсійнага ўзросту, якія даўно ўжо абюракрацілі і гісторыю, і нацыянальнае пытанне, і сам сацыялізм. Такім чынам, у гэтых адносінах «анархісты» цалкам зліваюцца з «манархістамі».

Яшчэ адзін прыклад. У газеце «Советская Латвия» 6 жніўня 1988 года надрукаваны артыкул інжынера В. Ільіна «Расцветка камуфляжу».

Артыкул таварыша В. Ільіна накіраваны, галоўным чынам, супраць спалучэння чырвона-бела-чырвоных колераў. Не буду пераказваць увесь сюжэт, запынюся толькі на паасобных момантах Таварыш В. Ільін застаўся незадаволены мітынгам 21 ліпеня, на якім моладзь паводзіла сябе кепска. Яго душэўны спакой, гэтак жа, як і душэўны спакой В. Сандара, парушыў фестываль «Балтыка-88», на якім дарэчы і недарэчы развяваўся чырвона-бела-чырвоны сцяг, былі відаць значкі і стужачкі гэтых колераў. Пра густы заўсёды можна пагаварыць, і ў Ільіна ёсць на гэта права. Але ці ёсць у гэтага таварыша права так нетактоўна іранізаваць над нацыянальнымі пачуццямі латышоў? Я моцна сумняваюся ў гэтым. Калі б В. Сандар і В. Ільін больш ведалі аб трагічным шляху латышскага народа — аб шляху, па якім ён ішоў разам з іншымі народамі Савецкага Саюза і Еўропы, дык яны аналізавалі б сусветныя праблемы з дапамогаю больш складаных, але, вядома ж, — марксісцкіх катэгорый. Няўжо ж марксізм заключаны адно ў прымітывізме і банальнасці сталінскага «Кароткага курса»? Ні ў казарменным сацыялізме, ні ў сацыялізме Гулага няма нічога марксісцка-ленінскага, таму сёння заклікі да грамадства ісці назад азначаюць не толькі безадказнасць саміх аўтараў артыкулаў, але і безадказнасць іх натхняльнікаў, якія, па сутнасці, жартуюць з агнём.

Вядома, нашэнне чырвона-бела-чырвонага — яшчэ не гарантыя любві да сваёй Радзімы. Гэтак жа сама, як абраз на сцяне яшчэ не забяспечвае зеніту рускага патрыятызму. Але маё сумленне і элементарнае пачуццё такту не дазваляюць мне выступаць супраць падобных праяў, калі душа чалавека знаходзіць у іх задавальненне.

Не так даўно на сустрэчы з членам Палітбюро ЦК КПСС, сакратаром ЦК Аляксандрам Якаўлевым акадэмік Ян Страдынь расказаў, што нядаўна ён бачыў у полі трактар, на якім трапятаўся чырвона-бела-чырвоны сцяжок. Пачуўшы гэта, я падумаў: калі сцяг памагае трактарысту працаваць, калі ён памагае яму адчуць святасць латвійскай зямлі, хай ён лунае вечна над нашай прыніжанай войнамі і самадурствам зямлёй, якая вяртае сабе пладаноснасць і самапавагу! Хлеба хопіць усім — у тым ліку і таварышам Сандару і Ільіну.

Мяне вельмі радуе тая хваля патрыятызму, якая ахапіла мільёны людзей нашай краіны ў час святкавання тысячагоддзя хрышчэння Русі. У гэтай тысячы гадоў — дзесяць стагоддзяў рускай культуры і дзяржавы, і ці могуць марксісты ў перыяд інтэлектуалізацыі прапусціць хоць бы адзін этап у гісторыі народа, краіны, у гісторыі ўсяго чалавецтва? І мы на шляху развіцця дзяржаўнасці Латвіі не можам ігнараваць ні першыя элементы нашай дзяржаўнасці ў 1917 і 1919 гадах, ні латвійскую дзяржаву перыяду буржуазнай незалежнасці, якая ў сваіх класава-антаганістычных супярэчнасцях дамаглася прызнаных поспехаў у аграрнай гаспадарцы, каапераціі, культуры, кантактах з Савецкім Саюзам і Захадам. Думаю, што гісторыкам, публіцыстам, грамадскай думцы трэба ўспрымаць ідэю латвійскай дзяржавы ва ўсёй яе дыялектычнай глыбіні. Надышоў час інфармаваць жыхароў рэспублікі, прывучаць іх да дыскусій пра ўвесь перыяд латвійскай дзяржаўнасці — ад першых месяцаў Кастрычніцкай рэвалюцыі да 1988 года. Гэты перыяд працягам у 71 год заключае ў сабе унікальны матэрыял — два першыя савецкія ўрады, 16-гадовы перыяд буржуазнай дэмакратыі да перавароту 1934 года, шэсць гадоў аўтарытарнага рэжыму, сутыкненне сацыялістычнай арыентацыі з дэфармацыямі сацыялізму Сталіным—Вышынскім у 1940/41 гадах, чатыры гады фашысцкага генацыду, драматызм пасляваенных гадоў, які ўключае ўдары па латышскім народзе і Кампартыі ў 1949 і 1959 гадах, а таксама ўсё тое светлае і цёмнае, што тычылася нас ажно да красавіка 1985 года. Ці не павінен аналіз усяго гэтага перыяду стаць грунтам усяго нашага ідэалагічнага жыцця? Мусіць, і сёлета 18 лістапада людзі захочуць ускласці кветкі да помніка Свабоды, ушанаваўшы ўсё тое, што мае духоўную каштоўнасць, усё тое, што завявана потам, крывёю і працай, тое, што набыта **не дзякуючы транснацыянальнай буржуазнай Латвіі, а насуперак ёй!** Вопыт даказвае: гістарычныя дыскусіі забяспечваюць высокую свядомасць грамадзян і плюралізм, у той час як адміністрацыйныя забароны, акружэнні і блакіроўка прыводзяць да правінцыяльнай і мяшчанскай важданіны, якую з захапленнем апісвае заходняя прэса, дзякуючы нас за тэму.

Мы — інтэрнацыяналісты, і Рыга заўсёды была домам не толькі для карэннай нацыі — латышоў, але і для іншых народаў. Таму я выступаю за аднаўленне крыжоў, па-варварску сарваных з купалаў праваслаўнага сабора, я выступаю за адраджэнне Андрэеўскага сцяга — з гэтай ідэяй выступіла Балта-славянскае таварыства. Але разам з тым я буду змагацца і за адраджэнне латвійскай сімволікі. Я стану на шляху кожнага, хто асмеліцца абвінавачваць знак сонца, знак ранішняй зоркі, чырвона-бела-чырвоныя колеры ў тым, у чым былі вінаваты людзі і акалічнасці, што заплямілі сімвалы. Абарону культуры розных народаў я лічу сваім абавязкам — абавязкам латыша, інтэрнацыяналіста, камуніста. У свой час, яшчэ ў так званы «перыяд застою», я змагаўся за тое, каб упарадкавалі Вялікія могілкі горада Рыгі. Але я змагаўся за іх не толькі дзеля Крыш'яна Барона, Крыш'яна Валдэмара і Андрэя Пумпура. Не, я рабіў гэта і дзеля пахаванай тут опернай спявачкі М. Чаркаскай, і дзеля бацькоў савецкага скульптара В. Мухінай, і дзеля бацькі Фр. Цандара, і дзеля нямецкага гісторыка Егана Крыстофа Бротцэ. Тут пахаваны савецкія салдаты і забітыя фашыстамі яўрэі. І мой абавязак як латыша заключаецца не толькі ў тым, каб абараняць латышскую культуру, але і ў тым, каб абараняць інтарэсы ўсіх народаў, што жывуць у Латвіі, — інтарэсы рускіх, немцаў, яўрэяў, беларусаў, палякаў, літоўцаў, цыганоў, ліваў, калі гэтыя народы спрабуе уніфікаваць адміністрацыйная бюракратыя. Інтэрнацыяналізм мы не купім за лозунгі і не вырасцім за кратамі. Хутчэй — у дыскусіі. Але высокі ўзровень дыскусій не забяспечыць ні свіст зялёных падлеткаў, ні вокрыкі ў афіцыйных газетах. Прымітыўныя разважанні пра «заслугі старэйшых» і «безадказнасць маладых людзей» не выклікаюць нічога, акрамя смеху. Ужо згадваемы В. Ільін так разважае на старонках «Советской Латвии»:

**«Зараз у нашай моладзі няма клопатаў пра кавалак хлеба надзённага, але ёсць вялікае жаданне няпэўна доўга заставацца ў інфантыльным стане, бо ёсць мы, якія ад усіх іншых пакаленняў адрозніваемся тым, што яшчэ памагалі сваім бацькам матэрыяльна, а пасля адразу пераключыліся на дзяцей і ўнукаў, а самі быццам выпалі з укладу, што склаўся за стагоддзі. Адным словам, мы стварылі нашым дзецям і ўнукам бесклапотнае жыццё, у іх узнікла шмат вольнага часу для сцвярджэння «плюралізму думак», а паколькі свае думкі і меркаванні з дапамогаю матацыклаў і мапедаў хутка выветрываюцца, дык у галаве заўсёды ёсць месца для чужых, якія старанна пастаўляюцца ўжо згаданымі «дзядулямі» і «дзядзькамі». Мусіць, гэта і ёсць адна з прычын, па якой і робіцца надзённым пытанне, як нам рашуча змагацца супраць нацыяналізму і шавінізму.**

**Пакуль мы змагаемся, па-мойму, «у адваротны бок». Калі чытаеш газеты «Советская молодежь» і «Падом'ю яўнатне», складваецца ўражанне, што пасля ўсіх застойна-застольна-запойных часоў мы ўжо ўсё пераадолелі і ў эканоміцы, і ў сацыяльнай сферы, і ў справе выхавання, і цяпер нам засталося толькі праводзіць конкурсы прыгажунь, абмяркоўваць праблемы гомасексуалістаў, шукаць клондайк у Калінінградскай вобласці ці бяздумна мусіраваць пытанне, пад якімі сцягамі нам плысці ў заўтрашні дзень?»**

Няўжо вам, таварыш Ільін, сапраўды здаецца, што моладзі забяспечана «бесклапотнае» жыццё? Вы называеце «бесклапотнай» тую лжывую гісторыю, якой мы вучылі моладзь яшчэ ўчора, гісторыю настолькі лжывую, што нават экзамен па ёй у школах быў адменены? І як правільна сказаў Аляксандр Якаўлеў на сустрэчы з ідэалагічным актывам рэспублікі 10 жніўня 1988 года: «Ці многія па прычыне нашага маўчання ведаюць, напрыклад, пра тое, што арганізатарам рэпрэсій 1940 года быў пасол Сталіна ў Рызе Вышынскі — кат савецкіх людзей усіх нацыянальнасцей, які загубіў самых выдатных рускіх і латышскіх камуністаў?» Значыць — не такая ўжо «бесклапотная» гісторыя 1940 года ў Латвіі... Ці «бесклапотныя» атручаная Ліелупе, смярдзючае Балтыйскае мора, экалагічна небяспечнае Олайне і агрэсіўны, што пагражае жыццю і самапавазе чалавека, Вентспілс? Ці «бесклапотныя» камунальныя кватэры, гэты пякельны механізм, які адправіў не аднаго жыхара Рыгі проста ў псіхіятрычную бальніцу? Вы ж ведаеце, таварыш Ільін, што Латвія — адзіная рэспубліка Савецкага Саюза і адзіная з развітых краін свету, дзе метраж жылой плошчы сярод карэнных жыхароў (у разліку на кожнага члена сям'і) не дасягнуў... даваеннага ўзроўню. Ці «бесклапотныя» звесткі пра членаў сям'і маршала Леаніда Брэжнева, у якой ёсць і спекулянт брыльянтамі, і злодзей-генерал, які яшчэ ў 1986 годзе працаваў у сістэме Міністэрства ўнутраных спраў СССР і ўдзельнічаў у... ідэалагічным выхаванні міліцэйскіх кадраў? Ці толькі адно «бесклапотнае» жыццё прымусіла дзесяткі дзяўчат-узбечак абліць сябе бензінам і падпаліць, калі ім здавалася, што справядлівасці ў свеце няма наогул? Ці «бесклапотнае» злачыннае давядзенне Чарнобыльскай АЭС да выбуху, які стаў практычна генеральнай рэпетыцыяй трэцяй сусветнай вайны? Паглядзіце фільм Юрыса Падніекса, і вы ўбачыце «бесклапотных» маладых людзей, якія страцілі ў Афганістане ногі, і цынкавыя труны вы таксама ўбачыце.

Ці можам мы ў такі момант падтрымліваць палітычна-экстрэмісцкую істэрыку бюракратыі, якая нацкоўвае адзін народ на другі? Ці можам мы не збірацца разам, як нам параіў Аляксандр Якаўлеў (яго камандзіроўка ў Латвію праветрыла правінцыяльна драматызаваную бюракратамі рэспубліканскую атмасферу), каб абмеркаваць пытанне нацыянальнай сімволікі? Таварыш Ільін, якога, трэба думаць, натхніў артыкул Н. Андрэевай, прыходзіць да высновы, што раскалваюць народы. Ён выказвае думку: калі б чырвона-бела-чырвоны сцяг толькі адзін дзень правісеў побач з фашысцкім, то і тады ён бы быў няварты ўпамінання. Але няўжо мы сёння адмовімся ад чырвонага сцяга рабочага класа толькі таму, што ён вісеў побач з фашысцкім, калі Молатаў прыбыў у Берлін, і пазней, у час візіту Рыбентропа ў Маскву? Ці адмовімся мы ад песні «Інтэрнацыянал» толькі таму, што гімн рабочых усіх краін свету выконваўся разам з «Deutschland, Deutschland über alles!» у час візіту прадстаўніка СССР у фашысцкую Германію і наадварот? Ці не хочаце вы, таварыш Ільін, каб мы забаранілі выкарыстанне народных колераў, а тых, хто іх носіць, заперлі ў турмы? Вы хочаце, каб тых людзей, якім чырвона-бела-чырвоны сцяг памагае сеяць і спяваць, мы каралі гэтак жа, як раскрадальнікаў і хабарнікаў, што здзяйсняюць злачынствы пад аховай чырвонага сцяга? Каралі як прыпісчыкаў і «спецыялістаў» экстэнсіўнага гаспадарання з залатой зоркай Героя Сацыялістычнай Працы на грудзях?

Горкі вопыт гісторыі даказвае: людзей сапраўды можна адміністрацыйна рэпрэсіраваць, але што загадаеце рабіць з гісторыяй? Яе можна абылгаць, але нельга арыштаваць...

Сталінізм настолькі прымітывізаваў (ці нават знішчыў) наша марксісцка-ленінскае ўспрыманне рэчаіснасці, што сорамна робіцца перад дзецьмі і «бесклапотнай» моладзю. Яны не разумеюць, чаму ў імя камуністычных ідэалаў так актыўна змагаюцца з думкай народа, змагаюцца супраць духоўных каштоўнасцей, дарагіх народу, супраць усяго, што раскрывае ў чалавеку савецкі патрыятызм, волю да жыцця, энергію, жаданне паверыць у сацыялізм.

Мне хочацца нагадаць і аб тым, што ўсе мы пакідаем сведчанні аб сваім часе. Пачытайце прэсу саракавых, пяцідзесятых, шасцідзесятых гадоў, і вас ахопяць трагікамічныя пачуцці — тут і да агіднасці салодкія ўслаўленні Сталіна, і крыкі «ўра» кукурузе, а таксама яс бацьку — «нашаму дарагому Мікіту Сяргеевічу», і паляванне на «касмапалітаў» і «буржуазных нацыяналістаў». Усё гэта пацвярджае, наколькі падпарадкаванымі, уніжанымі і абмежаванымі былі нашы грамадства і афіцыйны друк.

А хіба сёння мы не адчуваем сораму за паасобныя істэрычныя матэрыялы? Ды праз пару месяцаў, не кажучы ўжо пра больш аддаленую будучыню, многія артыкульчыкі, напісаныя сёння з усёй сур'ёзнасцю, пададуцца ўзорам чорнага гумару. А супрацьстаяць ім словы, сказаныя зусім нядаўна Аляксандрам Якаўлевым у Рызе. «Вось чаго трэба баяцца, як самага большага ворага,— таго, каб не адбылося раздзялення па нацыянальным прызнаку, каб адносіны сапраўды развіваліся на аснове найглыбейшай павагі да культурных традыцый і мовы, каб усё развівалася на аснове ўзаемапавагі, сапраўднай і шчырай павагі, што ідзе з самой глыбіні сэрца».

Думаю, што гэтыя словы астудзяць галовы ўсім тым, хто не ўстане забыць старыя часы і патрабуе «арганізацыйных вывадаў» у адносінах да палітычных кіраўнікоў Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Латвіі, у адносінах да рэдактараў газет і тэлежурналістаў, у адносінах да ўсіх тых, хто сёння стараецца папярэдзіць «раздзяленне па нацыянальным прызнаку», каб моцны не ўзвышаўся над неабароненым, каб самасвядомасць не блыталі з нацыяналізмам, а адміністрацыйнае падаўленне — з інтэрнацыяналізмам. Усім тым, хто зведвае задавальненне з выпадку адраджэння справядлівасці, дэмакратызацыі і сапраўднага інтэрнацыяналізму ў рэспубліцы, трэба супакоіцца і зразумець — курс партыі незваротны.

Дэмагагічная істэрыя не ўстане раскалоць здаровыя сілы грамадства.

●

Канчаючы свае разважанні, яшчэ раз хачу нагадаць аб тым, што сённяшняя перабудова — гэта рэвалюцыя сумлення. Кожны заклік вярнуцца назад да старога «парадку» (чытай — палітычнай амаральнасці) азначае выступленне супраць развіцця сацыялізму, супраць СССР як федэрацыі свабодных дзяржаў. І, абапіраючыся на горкія ўрокі гісторыі, я заклікаю ўспомніць і аб тым, што тон перабудове не змогуць задаць ні спекулятыўна настроеныя пласты «ўнізе», ні экстрэмісты з ліку ўчарашняй афіцыйнай бюракратыі.

Усё вырашаць здаровыя сілы народа і Камуністычнай партыі. Я заклікаю людзей усіх нацыянальнасцей у Латвіі арыентавацца менавіта на гэтыя сілы. А да размініравання нашага будынка ў працэсе перабудовы мы дапусцім толькі тых, хто будзе здольны зрабіць сваю работу без палітычнай істэрыкі, якая і можа прывесці да выбуху.

*Прэстыж роднай мовы*

# ШТО ВЫСВЕЦІЛА РАМПА

**— Без нацыянальнай мовы няма і не можа быць нацыянальнай культуры. На жаль, прыходзіцца пачынаць нашу размову з напаміну гэтай ісціны,— сказаў першы намеснік міністра культуры БССР Уладзімір Гілеп, адкрываючы гутарку за «круглым сталом» карэспандэнтаў БЕЛТА і вядучых спецыялістаў міністэрства. У гутарцы прынялі ўдзел намеснік міністра Уладзімір Скараходаў, галоўны рэдактар Рэдакцыйнай калегіі Вацлаў Валадзько, галоўны рэдактар Рэпертуарна-драматычнай калегіі Ніна Загорская, дырэктар Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра культуры Аляксандр Лягенчанка, начальнік Бібліятэчнай інспекцыі Тамара Папова, начальнік Упраўлення навучальных устаноў, навуковых устаноў і кадраў Валерый Башура, намеснік начальніка Упраўлення культасветустаноў Тадэвуш Стружэцкі.**

— У пасляваенны час мы пакрысе страцілі многае з дасягнутага ў 20—30-х гадах,— адзначыў **У. А. Гілеп.** — Наша сённяшняя праграма-мінімум — адрадзіць страчанае. Але без кардынальных перамен у адносінах большасці насельніцтва да роднай мовы, без максімальнага расшырэння сфер яе прымянення зрабіць гэта практычна немагчыма.

Сёння мы робім усё, што ад нас залежыць, каб па-беларуску загаварылі для пачатку ва ўсіх гарадскіх і сельскіх установах культуры, імкнёмся адрадзіць народныя традыцыі і абрады.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Тады, можа, перавядзём гутарку ў больш канкрэтны напрамак. Думаецца, ёсць сэнс пачаць з тэатраў — іх папулярнасць, сітуацыя з рэпертуарам і наведвальнасцю могуць сказаць аб многім...**

**Валадзько:** Другі год ідзе тэатральны эксперымент. У ім удзельнічаюць пяць з дзевятнаццаці тэатраў рэспублікі. Па новых умовах, акрамя іншых правоў і свабод, яны атрымалі права выбару рэпертуару. І як выкарыстоўваюць яго? Пастаноўкі на рускай мове, нават у тэатрах, што працуюць ва ўмовах двухмоўнасці, выцясняюць беларускія спектаклі. Можна зразумець кіраўнікоў тэатраў: большая частка іх кадраў — людзі прыезджыя, якія не ведаюць беларускай мовы, далёкія ад нашых традыцый. А ўласна беларускіх тэатраў у рэспубліцы толькі тры, ды Віцебскі тэатр лялек, які нядаўна адкрыўся. Але тады, як ні горка аб гэтым гаварыць, трэба прызнаць, што мы за мінулыя дзесяцігоддзі не здолелі падрыхтаваць дастаткова кваліфікаваныя нацыянальныя кадры ні ў рэжысуры, ні сярод акцёраў або тэатральнай адміністрацыі. Яшчэ нядаўна міністэрства магло «націснуць», даць указанне: таварышы, хочаце ці не, але адзін спектакль у сезон павінен быць па беларускай п'есе. Сёння ў нас такога права няма. У эксперымента з яго эканамічнымі стымуламі аказаўся і адваротны бок — нацыянальны рэпертуар перастаў цікавіць і тэатральныя калектывы, якія працуюць у новых умовах, і астатнія, дарэчы, таксама. Зразумейце, я не аб настальгіі па камандна-адміністрацыйнаму метаду кіравання кажу, а толькі канстатую сітуацыю, якая не можа не трывожыць.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Дык калі ж яна зменіцца на галоўных сцэнах рэспублікі? Бо, напрыклад, у оперным тэатры ўжо некалькі дзесяцігоддзяў не могуць стварыць па-сапраўднаму нацыянальны рэпертуар.**

**Валадзько:** Апошнія беларускія пастаноўкі прайшлі тут у дні 100-гадовага юбілею Купалы і Коласа. Гэта былі «Новая зямля» Ю. Семянякі, «Курган» Я. Глебава, і... усё. Аднак кіраўніцтва, адміністрацыя тэатра, відаць, не вельмі гэтым заклапочаны. Мы, тым не менш, спадзяёмся змяніць сітуацыю з дапамогай дзяржзаказаў, падтрымкі таго, што ўжо зроблена кампазітарамі. На наш погляд, нядрэнна ідзе работа над дзяржзаказам — операй паводле «Дзікага палявання караля Стаха» У. Караткевіча. Лібрэта напісала С. Клімковіч, кампазітар — У. Солтан. Ёсць ужо асобныя фрагменты, іх праслухаў мастацкі савет. Другі дзяржзаказ міністэрства — балет «Казкі маёй бабулі» па матывах беларускага фальклору.

У тэатры музычнай камедыі становішча, на жаль, не лепшае. Паставілі «Несцерку» Р. Суруса на роднай мове. А далей... А далей беларускія аўтары пачалі прапаноўваць для пастаноўкі лібрэта на рускай: «Дзяніс Давыдаў» А. Мдзівані, «Мільянерка» Я. Глебава... Тут, думаю, узнікае яшчэ адно прынцыповае пытанне: што лічыць нацыянальным творам? «Джардана Бруна» С. Картэса, «Матухна Кураж», «Маленькі прынц» Я. Глебава — аўтары нашы, але аснову ж твораў беларускай ніяк не назавеш.

Як дасягнуць узаемаразумення, калі многія нашы пачынанні разбіваюцца аб супраціўленне тэатраў? Не павінен жа цярпець і глядач, і інтарэсы захавання культурных традыцый хтосьці павінен адстойваць. Мы, напрыклад, не можам плаціць грошы за заказаныя п'есы, лібрэта, оперы, не будучы ўпэўненымі, што яны не лягуць «на паліцу». А выпадкі, калі гатовыя творы аказваліся ў «кошыку», ужо былі. Гэта ж не па-дзяржаўнаму. Тэатры замест таго, каб дапамагчы аўтарам дапрацаваць іх, проста выстаўлялі розныя прэтэнзіі і работы адхілялі.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Вы ўжо ўпаміналі, што ўзнікненню такой несуцяшальнай сітуацыі часткова «дапамог» і эксперымент, арыенціруючы калектывы, перш за ўсё, на дасягненне эканамічных выгод.**

**Валадзько:** У тым вось і справа, што часцей за ўсё ставяцца спектаклі, якія без рызыкі забяспечваюць касавы поспех. Але як жа тады ўздымаць нацыянальную драматургію, працаваць з пачынаючымі аўтарамі? Вядома, іх прэм'ерныя работы не гарантаваны ад няўдач, вось і атрымліваецца, што іменна эксперымент пры зусім вытлумачальнай адсутнасці такіх гарантый закрывае для пачаткоўцаў дарогу да творчага росту. Гэта відаць і па афішах. Пакуль што ў купалаўскім тэатры, напрыклад, не лічачы задзелу, паявіліся толькі бяспройгрышны «Мудрамер» М. Матукоўскага ды «Жыццё Карыцына» А. Паповай на малой сцэне — аўтары гэтыя, як кажуць, праверанныя. У коласаўскім — таксама дзве беларускія п'есы.

**КАРЭСПАНДЭНТ: У чым жа вы бачыце выйсце?**

**Валадзько:** Мне здаецца, што калі ўжо акадэмічныя тэатры баяцца рызыкаваць, спрабаваць, то міністэрства павінна выдзяляць пэўныя сродкі іменна на пошук і пастаноўку дастойных твораў нацыянальнай драматургіі. І нават пакрываць магчымыя няўдачы. Другі шлях — дзяржзаказ на спектакль. Шлях перспектыўны, але бяда ў тым, што сёння нашых грошай хапае толькі на адзін спектакль у год для ўсіх тэатраў. Зрабіць сур'ёзны ўплыў на рэпертуарную палітыку могуць агляды, конкурсы, фестывалі. Першы такі агляд-конкурс «Наш сучаснік» завяршыўся фестывалем у Віцебску. З дзевяці паказаных там нацыянальных п'ес сем упершыню ўбачылі святло рампы. Цяпер аб'яўлен другі агляд, прысвечаны 70-годдзю БССР,— ён таксама закончыцца фестывалем.

**Скараходаў:** Важна, што праводзяцца іменна конкурсы спектакляў, а не п'ес. Конкурс п'ес — гэта конкурс «на паліцу». Сем п'ес былі пастаўлены толькі таму, што атрымаўся кантакт драматурга і рэжысёра.

**Валадзько:** Абнадзейвае, што ёсць і добры выбар: у драматургію за апошні час прыйшлі цікавыя аўтары — Васіль Ткачоў, Святлана Алексіевіч, Уладзімір Ягоўдзік, Галіна Каржанеўская, Уладзімір Бутрамееў. Але і яны часта вымушаны перакладаць свае творы на рускую мову. Мы адкрылі, на першы погляд, нечаканы шлях: прапануем ставіць п'есы на беларускай мове ў рускіх тэатрах. Пачалі з тэатра лялек, а затым падступіліся і да абласных драматычных. Праўда, ініцыятыва міністэрства сустракае супраціўленне тэатраў — рускамоўнай трупе перабудавацца на аднача-совую работу на дзвюх мовах складана. У той жа час у кожным тэатры ёсць акцёры, якія валодаюць беларускай мовай і жадаюць іграць на ёй. У перспектыве плануем стварыць такія самастойныя трупы пры абл-драмтэатрах і, можа, нават самастойныя тэатры. А каб справа рухалася, арганізуем вывучэнне мовы. Сумесна з Саюзам тэатральных дзеячаў распрацаваны праграма, метадычны дапаможнік. І вось першы вынік — у Гродне пастаўлена «Пінская шляхта» на роднай мове. Беларускі тэатр будзе адкрыты ў Полацку — пакуль як філіял коласаўскага, а калі «пасталее» — стане самастойным. Цікавыя самадзейныя народныя калектывы ў Слоніме і Мазыры пераўтвораны ў тэатры-студыі, сталі паўпрафесіянальнымі гаспадарча-разліковымі калектывамі. Складваецца і ў Гомелі нацыянальны калектыў — фальклорны тэатр «Жалейка». Адны з апошніх навін — тэатр гістарычнай драмы, які, спадзяёмся, прыжывецца пры Беларускім фондзе культуры. Цікава, што Саюз пісьменнікаў, які настойваў на яго стварэнні, як аказалася, не змог даць на гэту справу ні капейкі.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Натуральна, узнікае пытанне: а хто ў іх будзе працаваць? Вядома, што ўзровень падрыхтоўкі акцёрскіх і рэжысёрскіх кадраў тэатральна-мастацкім інстытутам пакідае жадаць лепшага. Да таго ж у гэтай ВНУ практычна не гучыць родная мова.**

**Скараходаў:** Стаўка, несумненна, павінна рабіцца на нацыянальныя кадры. З гэтага года інстытут перададзен нашаму міністэрству, што павінна аблегчыць карэнную перабудову выкладання. Ужо ёсць дагаворанасць аб спецыяльным наборы акцёрскіх курсаў у тых гарадах, дзе ствараюцца тэатры. Такую групу ў гэтым годзе інстытут набраў спецыяльна для горкаўцаў. З першага курса, які ўзначаліў В. Маслюк, студэнты будуць непасрэдна ўдзельнічаць у рабоце тэатра. А ў наступным годзе групу для купалаўцаў павядзе В. Раеўскі.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Пакуль што мы ў асноўным гаворым толькі аб прафесіянальных калектывах. Але паралельна з імі існуюць і аматарскія — гэта дзесяткі, а з улікам школьных і сотні самадзейных тэатраў. І працуюць яны з аўдыторыяй не менш масавай, чым у «старэйшага брата» — прафесіянала.**

**Загорская:** У апошні час клубныя ўстановы ўсё часцей паварочваюцца тварам да беларускага рэпертуару. Не ўтаю, калісьці нацыянальныя творы ўключаліся ў актыў самадзейных калектываў пад нашым націскам. А сёння ў афішы дэкады прафесіянальнага і самадзейнага мастацтва з 25 назваў былі 22 беларускія.

І ўсё ж з 44 народных тэатраў, якія працуюць у сістэме Міністэрства культуры, толькі на роднай мове ставяць спектаклі ўсяго пяць калектываў. Паўплываць на прафсаюзныя тэатры мы не можам. І невыпадкова, што ў фестывалі «Рампа дружбы», аснова якога — нацыянальны рэпертуар, ніводзін з гэтых калектываў не быў прадстаўлен.

Затое, і гэта, лічу, вельмі важна, наладжваюцца добрыя адносіны са школамі. Нашы рэпертуарныя зборнікі, календары, дзе публікуюцца п'есы, сцэнарыі літаратурных пастановак, дарэчы, амаль усе на беларускай мове, ідуць літаральна нарасхват. Пачыналі мы з двухсот экземпляраў, цяпер друкуем па дзве тысячы, але і гэтага недастаткова — яны ж ідуць і традыцыйным «спажыўцам» — клубам і дамам культуры.

**Лягенчанка:** Калі ўжо зайшла размова аб нашых выданнях, дадам, што каляндар на 1988 год «Народныя таленты» разышоўся да апошняга экземпляра. На будучы год падрыхтаван каляндар «Народныя абрады і святы».

**КАРЭСПАНДЭНТ: Такі попыт не можа не радаваць. Але не сакрэт, што задавальняецца ён далёка не поўнасцю. І ваш новы каляндар, відаць, таксама трапіць у разрад «дэфіцыту»?**

**Лягенчанка:** З тыражамі, сапраўды, сітуацыя складаная. Наш цэнтр — адзіная ў рэспубліцы арганізацыя, якая выдае рэпертуарную і метадычную літаратуру. Але яна не даходзіць да ведамасных бібліятэк. Каб усіх забяспечыць, патрэбны тыражы ў 4-5 разоў большыя. У нас жа няма нават паліграфічнай базы.

Дрэнная матэрыяльная база — агульная бяда ўстаноў культуры, якая ўскладняе, у тым ліку і справу прапаганды нацыянальнага мастацтва. У Мінску становішча хоць і марудна, але выпраўляецца. У нас, напрыклад, паявіўся Цэнтр фальклору, традыцыйных народных рамёстваў і промыслаў. Але ж такія цэнтры патрэбны ў кожнай вобласці, у кожным раёне. А пакуль пахваліцца, на жаль, больш няма чым.

**Стружэцкі:** Лічу, што для самадзейных творчых калектываў праблемай з'яўляецца не столькі адсутнасць добрага рэпертуару, колькі, мякка кажучы, нерацыянальнае выкарыстанне наяўнага. Харавыя і танцавальныя праграмы бяднеюць на самабытныя, спрадвечна народныя песні і танцы. Вопыт, напрыклад, «Крупіцкіх музык» або «Чараўніц» шырокага распаўсюджвання пакуль што не атрымаў. А кожная вобласць і нават раён багаты сваёй культурнай спадчынай. Вядома, захаванне і папулярызацыя сапраўднага фальклору — справа не толькі самадзейных энтузіястаў, а перш за ўсё спецыялістаў. Пашыраючы сёння сетку фальклорных калектываў, нельга забываць і аб кваліфікаванай дапамозе ім у падборы матэрыялу, рабоце з ім. Для гэтага патрэбны кадры. Рыхтаваць іх маглі б спецыяльныя навучальныя ўстановы па фальклору, у тым ліку і ВНУ.

**КАРЭСПАНДЭНТ: У гутарцы са старшынёй Дзяржкамвыда БССР М. Дзяльцом мы гаварылі аб месцы і значэнні кнігі ў прапагандзе роднага слова. Але без дапамогі бібліятэк, якія ўваходзяць у сістэму вашага міністэрства, велізарная частка выдадзенай літаратуры не зможа знайсці свайго чытача...**

**Папова:** Мы можам назваць «прыгожыя» лічбы. Напрыклад, 15 мільёнаў. Столькі кніг на беларускай мове захоўваецца ў бібліятэках рэспублікі — гэта каля трэці нашых фондаў. І колькасць беларускіх выданняў пастаянна расце. Заказ у выдавецтве «Мастацкая літаратура» на 1989 год склаў 326 тысяч экземпляраў супраць 82 у 1985 годзе. Але не трэба цешыць сябе мноствам нулёў у гэтых лічбах. Апытанні паказалі: больш палавіны чытачоў звяртаюцца за беларускай кнігай не часцей аднаго раза ў год. Пры гэтым улічваюцца і творы беларускіх аўтараў у перакладах на рускую мову. Устойлівай жа папулярнасцю карыстаюцца кнігі не больш чым 15 пісьменнікаў.

Мы сапраўды робім адну справу з Дзяржкамвыдам, Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў, радыё і тэлебачаннем, калі стараемся данесці добрую кнігу да самага шырокага чытача. Але робім гэта ўсё паасобку, не ўлічваючы ўзаемных інтарэсаў і праблем. Напэўна, пара аб'яднаць намаганні, стварыць сумесную грамадскую калегію ўсіх зацікаўленых ведамстваў.

**КАРЭСПАНДЭНТ: Тут ужо выказана нямала нараканняў і на ўзровень моўнай падрыхтоўкі кадраў у саміх установах культуры. Напэўна, патрэбны змяненні ў праграмах ВНУ, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў?**

**Башура:** На жаль, беларуская мова практычна не гучыць ні ў кансерваторыі, ні ў музычных, ні ў культасветвучылішчах. Нават падручнік для кансерваторыі па курсу гісторыі нацыянальнага мастацтва аўтары пішуць на рускай мове, і толькі затым ён будзе перакладзен на беларускую. Становішча, несумненна, трэба выпраўляць. І перш за ўсё увядзеннем адпаведных праграм і курсаў у навучальных установах, сумеснай работай прафесіянальных аўтараў з носьбітамі жывой беларускай мовы, супрацоўніцтвам выкладчыкаў нашай сістэмы і агульнаадукацыйнай школы. Акрамя тэатральна-мастацкага інстытута, у наша распараджэнне перайшоў і Мінскі інстытут культуры. Думаем, што цяпер зможам больш дзейсна і мэтанакіравана ўплываць на падрыхтоўку кваліфікаваных кадраў.

**Гілеп:** Падводзячы вынікі размовы, хачу падкрэсліць: без заканадаўчых крокаў на ўрадавым узроўні, без аб'яднання намаганняў нашага міністэрства з усімі творчымі саюзамі, без уцягнення ў справу адраджэння роднай мовы самых шырокіх мас дасягнуць поспеху цяжка. Гэтай заявай я ніякім чынам не хачу перакладваць адказнасць з нашых плеч на чужыя. Усё, што залежыць ад Міністэрства культуры, і нават больш, будзе зроблена. Але ўсё ж, давайце брацца за гэту работу ўсёй грамадой.

## *Вяртаючыся да надрукаванага*

**У «ЛіМе» за 10 чэрвеня быў надрукаваны артыкул «Жураваль і сініца», падпісаны групай супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.**

**Сутнасць артыкула ў тым, што з 1976 года, калі была прынята пастанова Савета Міністраў БССР «Аб стварэнні дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту», справа так і не зрушылася з месца. Дагэтуль няма нават зацверджанага праекта музея. У розныя гады над гэтым праектам працавалі розныя арганізацыі. У тым ліку «Мінскпраект» і «Белрэстаўрацыя». Аўтары прыгаданага артыкула *схіляюцца да мінскпраектаўскай канцэпцыі музея. Але ж трэба выслухаць* і другі бок. Таму сёння мы даём слова А. Лакатко, супрацоўніку ВА «Белрэстаўрацыя». Між тым, пакуль ідуць спрэчкі пра лёс музея, псуюцца ўжо сабраныя экспанаты. Пра гэта піша ў рэдакцыю галоўны захавальнік музея Г. Фурс.**

# ЦІ ПАТРЭБНА ТАКАЯ «СІНІЦА»?

У ВЯРХОЎІ Воўчкавіцкага вадасховішча на Пцічы, каля вёскі Строчыца, будуецца Рэспубліканскі музей народнай архітэктуры і быту. Прыбярэжныя схілы ахопліваюць рэчышча двума амфітэатрамі. Верхні — насупраць вусця ўпадаючай ў Пціч Менкі, ніжні — насупраць Строчыцы. Схілы пераходзяць у лугавіны і палі, верхавыя балотцы і тальвегі, якія сілкуюць раку дажджавымі і талымі водамі. Гэты жывапісны куток — помнік прыроды і гісторыі. Тут захаваліся групы курганных могільнікаў.

У тэхніка-эканамічным абгрунтаванні (ТЭА) забудовы музея інстытута БелНДІ горадабудаўніцтва было прапанавана размяшчэнне экспазіцыі ў абодвух амфітэатрах, распрацавана сувязь музея з аб'ектамі прыгараднай зоны. Але галоўны недахоп ТЭА — адсутнасць рашэння па Строчыцы. Яна рэкамендавалася да зносу. Гэта ідэя знайшла працяг і ў распрацаваным адначасова з ТЭА праекце рабочай групы па стварэнні музея. У ім на месцы вёскі размяшчаліся сектар «Панямоння», уваходны комплекс і мястэчка, віддавая пляцоўка на месцы могілак.

Як пішуць супрацоўнікі ІМЭФ АН БССР у артыкуле «Жураўель і сініца», ТЭА было імі адобрана, бо «ў яго аснову былі пакладзены навукова-метадычныя прынцыпы стварэння музеяў *пад адкрытым небам*», без якіх, як яны гавораць крыху раней, «немагчыма распрацоўка тэхніка-эканамічнага абгрунтавання, а потым і генеральнага плана праекта музея». Значыць, ідэя зносу вёскі з іх пункту гледжання «навукова-метадычным прынцыпам» адпавядала.

Супярэчнасці паміж ТЭА і варыянтам рабочай групы (у апошнім экапазіцыя размяшчалася толькі ў ніжнім амфітэатры) на некаторы час стала тормазам у далейшым праектаванні.

У 1983 годзе праектаванне было даручана аб'яднанню «Белрэстаўрацыя». Тут архітэктары ўпершыню прыйшлі да высновы, што двойчы прапанаваны знос Строчыцы з'яўляецца галоўнай памылкай. Гэта супярэчыць рашэнню пытання сінтэзу экспазіцыі з гісторыка-ландшафтным асяроддзем, самой маральнай ідэі аховы помнікаў. Прапанова захаваць Строчыцу і паспрабаваць знайсці формы яе суіснавання з музеем стала галоўным вынікам работы. Але аўтары прыгаданага артыкула (У. Гуркоў, С. Мілючэнкаў, В. Цітоў і іншыя) пішуць, што аб'яднанне «Белрэстаўрацыя» нібы «з ганьбай завaліла гэту работу». Ці так гэта?

Спашлёмся на рэдакцыйную заўвагу часопіса «Строительство и архитектура Белоруссии» (№ 1, 1988 г.) да артыкула «Захаваем помнікі народнай архітэктуры»: «...у ліпені 1985 года на пасяджэнні апeратыўнай групы Міністэрства культуры БССР было запратакаліравана: 1. Ухваліць распрацаваныя СНРВМ (спецыяльнымі навукова-рэстаўрацыйнымі вытворчымі майстэрнямі.— **А. Л.**) абгрунтаванні навукова-праектных рашэнняў забудовы экспазіцыйных зон Белдзяржмузея народнай архітэктуры і быту. 2. Перадаць прадстаўлены матэрыял для выкарыстання ў якасці асновы ў працэсе далейшага праектавання музея». На пасяджэнні прысутнічалі і У. Гуркоў, С. Мілючэнкаў, В. Цітоў...

Чаму ўсё ж вырашылі перадаць далейшае праектаванне «Мінскпраекту», хоць «Белрэстаўрацыя», безумоўна, і сама змагла б давесці работу да канца? На гэта рашэнне паўплывала наступная акалічнасць. Тагачаснае кіраўніцтва музея (у прыватнасці, намеснік дырэктара па будаўніцтве М. Лук'янчык) імкнулася накіраваць праектаванне *па шляху прыгаданага* вышэй варыянта рабочай групы, якія прадугледжваў знішчэнне вёскі Строчыца.

Аднак «Мінскпраект» у парушэнне запісу аператыўнай групы не пайшоў па шляху далейшага развіцця прапаноў рэстаўратараў, як не пайшоў і па шляху рэкамендацый ТЭА. У выніку з'явіўся яшчэ адзін праект.

Экспазіцыю было прапанавана размясціць цалкам у ніжнім амфітэатры на плошчы ў 66 гектараў (!). Адзначым, што па ТЭА музей мог займаць да 160, па праекце «Белрэстаўрацыі» да 120 гектараў. Зоны максімальна сцягваліся да поймы, прастора за імі замыкалася дарожным кальцом, адразу за якім ішла агароджа. У выніку за межамі аказаліся не толькі верхні амфітэатр, але і каштоўныя для экспазіцыі ўчасткі плата, тальвегі. Інтэрвалы паміж зонамі звяліся да мінімуму, выключаючы магчымасць развіцця іх і ўсяго музея ў цэлым. Звялася да нуля і прастора, неабходная для эмацыянальнай адаптацыі. «Панямонне», «Усходняе і Заходняе Палессе», «Мястэчка» ператварыліся ў хаатычны кангламерат, у якім нават на схеме цяжка вызначыць напрамак маршруту. У такіх цесных умовах асобныя зоны давялося садзіць на загадзя непрыдатныя для забудовы ўчасткі. «Панямонне» села на залесены круты схіл з курганнымі могільнікамі. М. Лук'янчык нейк назваў гэтае рашэнне «смелым». Аднак гэтая «смеласць» паводле прызнання інжынераў «Мінскпраекта» патрабавала ўмацавання грунту палямі і каменем для наступнай значнай падсыпкі, не кажучы ўжо пра высечку алешніка на курганах. На ўсходні схіл вёскі селі ўваходны комплекс і «Мястэчка». Апошняе аказалася цэнтрам усёй забудовы, на яго свядома арыентаваліся восі зон. Хочацца спытаць у этнографаў: такая пасадка «Мястэчка» таксама адпавядае «навукова-метадычным» прынцыпам музея з пункту гледжання паказу гістарычнай паслядоўнасці развіцця культуры? Адсутнасць прасторы абумовіла і адсутнасць рашэння па рэгіянальным (характэрным абласцям Беларусі) і агульным азеляненні, зрабіла трасіроўку дарог і камунікацый непрымальнай з пункту гледжання экалогіі, у прыватнасці, там, дзе дарога праходзіць уздоўж берага па ўсходнім схіле вёскі. У адносінах вёскі — ніякага рашэння. Рассечаная ўздоўж на дзве часткі музейнай агароджай, яна пакінута на волю лёсу. А між тым у заданні ГалоўАПУ было рэгламентавана прадугледзець добраўпарадкаванне Строчыцы і магчымасць яе падключэння да функцыі музея. Там жа было запісана і патрабаванне прадугледзець развіццё музея. Цалкам адсутнічае і рашэнне прывязкі музея да сістэмы прыгараднай зоны Мінска.

Вось як. І як жа быць далей? У пошуках выйсця дырэктар музея Г. Ткацэвіч прапанаваў правесці грамадскае абмеркаванне ўсіх распрацаваных праектаў, запрасіць спецыялістаў з іншых рэспублік падзяліцца вопытам. Аднак гэта ідэя падтрымкі не атрымала. Пасяджэнне секцыі этнаграфіі таварыства аховы помнікаў, на якім планавалася разгледзець праблемы музея, нечакана пераносіцца з восені гэтага года на сакавік. На ім аказаўся прадстаўленым толькі адзін праект, Л. Левіна і Ю. Градава. У ходзе яго абмеркавання быў выказаны шэраг сур'ёзных заўваг, унесена *пажаданне правесці* грамадскае абмеркаванне ўсіх праектаў. Аднак старшынствуючы С. Мілючэнкаў дастаў з папкі загадзя падрыхтаваную пастанову і прапанаваў яе прыняць. Што датычыць праекта, то прапаноўвалася вынесці яго *на абмеркаванне і потым* зацвердзіць. Паступілі пярэчанні, якія вынікалі з агульнага зместу пасяджэння. С. Мілючэнкаў абяцаў пастанову адкарэкціраваць, аднак гэтага не зрабіў. У сваім загадзя падрыхтаваным выглядзе яна і выйшла ў свет у другім нумары «Помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» за гэты год.

Абмеркаванне ўсіх прыгаданых вышэй праектаў адбылося на вучоным савеце музея 6 мая гэтага года. У выкладанні фактаў гэтага мерапрыемства аўтары артыкула пайшлі па шляху іх суб'ектыўнага вытлумачэння. Паведамляючы пра тое, што «праект «Мінскпраекта» прыдбаў больш прыхільнікаў», аўтары маўчаць аб тым, што яго крытыкавала пераважная большасць, у тым ліку і былыя прыхільнікі, і члены сектара этнаграфіі. Зробленыя імі заўвагі патрабавалі па сутнасці выкanання новага праекта. Загадчык аддзела рэстаўрацыі музея В. Барысаў адзначыў, што рашэнне «Мінскпраекта» прыдатна толькі для музея абласнога маштабу. Амаль тое ж выказаў і прадстаўнік «Белрэстаўрацыі» С. Багласаў, які адзначыў, што такі музей можа быць, як варыянт, напрыклад, у абмежаванай паркавай зоне, але не як *нацыянальны запаведнік*. Маўчаць аўтары артыкула і аб прапанаваным увазе савета водгуку спецыялістаў Беларускага тэхналагічнага інстытута. У ім дадзена аргументаваная крытыка праекта, асабліва адзначана яго экалагічная недасканаласць. *Нядаўна адмоўны водгук* паступіў на адрас міністэрства і Дзяржбуда ад інстытута БелНДІ горадабудаўніцтва.

У той жа час, у духу рыторыкі, якая зрываецца на лаянку, разносіцца эскізная прапанова «Белрэстаўрацыі». У ім, улічваючы неардынарнасць ландшафтна-тэрытарыяльнай сітуацыі, была прапанавана ідэя нацыянальнага ландшафтна-этнаграфічнага запаведніка. Аснову яе складаў сінтэз дзвюх тэм: экспазіцыйнай (на аснове перавозімых помнікаў) і запаведнай (помнікі прыроды і гісторыі канкрэтнай тэрыторыі). Экспазіцыйная прадугледжвае стварэнне неабходных для развіцця інтэрвалаў паміж зонамі з актыўным выкарыстаннем магчымасцей ландшафту. У верхнім амфітэатры прапаноўваецца тэма лясных промыслаў і часткова унікальных помнікаў. Тэма запаведніка фарміруецца на аснове гістарычных аспектаў Строчыцы і яе наваколля. Яшчэ і цяпер на поўдзень ад вёскі бачна група старых дрэў. У мінулым тут быў фальварак, які належаў *у пачатку XIX* стагоддзя прадстаўніку роду Чачотаў, з якога выйшаў і вядомы беларускі філолаг і фалькларыст Ян Чачот. Потым строчыцкім маёнткам валодаюць Немаршанскія, якім належаў пад Мінскам і маёнтак Лошыца, цяпер намечаны *да рэстаўрацыі*. Сын наступнага ўладальніка Юліяна Држневіча, Аляксандр-Людамір ва ўзросце 24 гадоў удзельнічаў у паўстанні 1863 года, за што на маёнтак Строчыцы пастановай сената была накладзена забарона. У матэрыялах следства па Старасельскай воласці (у яе ў канцы XIX стагоддзя ўваходзіла і Строчыца) гаворыцца пра схаваныя ў тутэйшых лясах склады зброі, беглых паўстанцах.

«Белрэстаўрацыя» прапаноўвала аднавіць фальварак (тым больш, што яго неабходна прадставіць у музеі), з арганізацыяй тут экспазіцыі «Сядзіба ўдзельніка паўстання 1863 года». Прадугледжвалася выкарыстанне сеткі гістарычных дарог для арганізацыі маршруту старажытнасцей, які ўключае курганныя могільнікі, а таксама паэтапная рэканструкцыя Строчыцы з агульным добраўпарадкаваннем

---

**УЗЯЦЦА за пяро мяне прымусіла сітуацыя, у якой апынуліся *помнікі народнага дойлідства* і народнага мастацтва ў фондах Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту.**

# ЗАХОЎВАЮЦЦА «ЧАСОВА»...

Я недасведчана ў тым, якія абяцанні і мары цешылі пачынальнікаў — тых, хто прыйшоў у музей у ліку першых супрацоўнікаў рабочай групы па стварэнню музея. Ведаю, што працавалі яны з душой, не шкадуючы ні сіл, ні часу. Ды і ў адміністрацыйныя пакоі часта заходзілі людзі, якія прапаноўвалі музею набыць або перадавалі ў дар помнікі даўніны. Памяшканняў пад фонды не было. Прадметы размяшчалі ў хляве аднаго з жыхароў в. Строчыца, у службовых пакоях і падвале па вул. А. Пашкевіч, 3. Цяжка сказаць, якія захады рабіліся для таго, каб палепшыць становішча, што абяцала Міністэрства культуры. Відаць, не ад добрага жыцця пачалі здымацца ў арэнду падвальныя памяшканні ў жылых дамах г. Мінска. Потым у в. Строчыца збудавалі дашчаны хлеў, затым яшчэ адзін...

Зараз агульная плошча гэтых часовых памяшканняў каля 550 м². У іх захоўваецца каля 12 тысяч музейных прадметаў. Захоўваюцца «часова» на працягу амаль дзесяці гадоў!

Дык як жа ім там жывецца?

Зімою тэмпература пастаянна павышаная, летам жа істотна паніжаецца і з-за адключэння цэнтральнага ацяплення павышаецца вільготнасць. У некаторых памяшканнях яна дасягае 85—95 працэнтаў пры дапушчальнай да 65 працэнтаў. Экспанаты то сохнуць ад спёкі, то загніваюцца, плеснявеюць. Звыклымі сталі аўралы па выратаванні прадметаў, якія залівае вадой, калі прарывае трубы сістэм водазабеспячэння, якія праходзяць праз падвалы.

У хлявах в. Строчыцы прадметы літаральна задыхаюцца ад спёкі і пылу, а зімою трашчаць ад марозаў. Ды і ад чаго могуць уберагчы тонкія сцены з дошак, не вельмі надзейныя дахі, адсутнасць ацяплення. Вясною ў гэтыя памяшканні наогул страшна заходзіць — ад сырасці прадметы так набрыняюць, што пачынаюць прагінацца і трашчаць стэлажы. І ўсё гэта называецца захаваннем, зберажэннем помнікаў гісторыі і культуры!

Супрацоўнікі музея стараюцца размясціць іх так, каб хоць крыху засцерагчы ад псавання, дэфармацыі. Але гэтыя намаганні — толькі кропля спагады, якая раствараецца ў моры абыякавага стаўлення да захавання прадметаў, да сітуацыі, якая склалася ў музеі.

Даволі часта мне прыходзіцца чытаць паперы, якія стосамі прыходзяць з Міністэрства культуры. У іх канстатуюцца факты дрэннага захавання экспанатаў у музеях рэспублікі, прыводзяцца прыклады страты музейных каштоўнасцей, раздаюцца грозныя «указать», «предупредить». Дык, можа, замест папер і пералікаў фактаў лепш бы прааналізаваць сітуацыю, вызначыць, у якіх помніках архітэктуры (а іх жа сотні пустых на тэрыторыі рэспублікі) можна размясціць фонды музеяў, сумесна з органамі ўлады скарыстоўваць пустыя склады, дамы і інш.

Я амаль год спрабую высветліць — што ж можа зрабіць Міністэрства культуры і адміністрацыя музея для паляпшэння сітуацыі? Можа, газета дапаможа мне ў гэтым?

Ведаючы цяжкую сітуацыю ў фондах, можна пацешыць сябе лепшым станам захаванасці

і рэгенерацыяй гістарычнай забудовы.

«Тэрыторыя музея павялічылася ў два разы»,—у параўнанні з чым? З варыянтам «Мінскпраекта» — так. З рэкамендацыямі ТЭА — не. Многае ў артыкуле этнографаў сказана і проста так, «на авось». Маўляў, хто там будзе правяраць. Так трэба расцэньваць фразы пра тое, што эскіз «не вырашае інжынерных пытанняў», «не адпавядае будаўнічым нормам і правілам».

І ўжо зусім сумна, што ў адносінах вёскі ўяўленне аўтараў артыкула не стварыла нічога, акрамя закліканых запалохаць грамадскую думку вобразаў вёскі-рэзервацыі і жыхароў-абарыгенаў. Хочацца ў сувязі з гэтым нагадаць пасяджэнне секцыі этнаграфіі таварыства аховы помнікаў, якое адбылося восенню 1983 года, дзе выказваліся за захаванне ў вёсках фрагментаў старой забудовы для выкарыстання ў музейных мэтах. Падобна, што за пяць мінулых гадоў этнографы ад сваёй ідэі адмовіліся. Тым больш дзіўна слухаць ад іх, што забудова Строчыцы эклектычная. Ці яны могуць назваць адрасы вёсак XVIII, XIX, пачатку XX стагоддзяў? Эклектыкай па сутнасці названы гістарычны працэс. Між тым у вёсцы захаваўся шэраг дамоў 20 — 30-ых гадоў, якія з'яўляюцца прыкладам надпойменнай забудовы на складаным рэльефе (высокія цокалі-падвалы з валуноў), што захавалі ўзоры разьбы, характэрныя інтэр'еры.

Ідэя стварэння музеяў пад адкрытым небам у кантакце з гістарычна складзенымі паселеннямі існуе даўно і з поспехам прымяняецца як у нашай краіне, так і за мяжой. Пра такія музеі ў ЗША нядаўна пісалася ў «Огоньке».

«Вёску, зразумела, варта захаваць, але за межамі музея». Аказваецца, уся справа толькі ў «межах». Няўжо У. Гуркову не ясна, што як агарод не гарадзі, Строчыца не знікне, не аддаліцца ад музея, застанецца ў кантакце з ім. Пра гэта таксама ішла гаворка на вучоным савеце. У гэтым каварным лозунгу бачыцца завуаліраванае жаданне рассекчы праблемы на дзве часткі. Маўляў, няхай рэканструкцыяй вёскі займаюцца іншыя. Знаёмая пазіцыя, — вырашаючы адно пытанне, пакідаць убаку другое.

Трэба аднавіць ісціну і ў выкладанні яшчэ аднаго пытання, звязанага з зонай «Падняпроўе». У праекце Ю. Градава і Л. Левіна зона высунута да поймы, яе крайнія сядзібы спаўзаюць у надпойменнае кустоўе, а прыгуменні ўпіраюцца ў межы «Цэнтральнага рэгіёна». Прэабражэнская царква XVIII ст. з вёскі Барань Аршанскага раёна, самы буйны архітэктурны экспанат музея вышынёй больш за дваццаць метраў, пры прапанаванай развязцы рэзка парушала сілуэтную раўнавагу музейнай панарамы, суадносіны з ужо ўзведзенымі цэрквамі. Зразумеўшы гэта, адміністрацыя музея напісала ў аб'яднанне «Белрэстаўрацыя» пісьмо-заказ з просьбай зрабіць карэкціроўку прывязкі зоны. У вырашэнні пытання прымалі ўдзел прадстаўнікі музея, у тым ліку і намеснік дырэктара па будаўніцтве М. Лук'янчык, рэстаўратары, прадстаўнікі міністэрства. Пры выбары ўчастка кіраваліся рэкамендацыямі ТЭА. Была выканана адпаведная праектная дакументацыя, зацверджаная заказчыкам і міністэрствам. Як у гэтым выпадку разумець галасы, якія сцвярджаюць, што праекта на прывязку зоны няма? Спрытны рытарычны ход, пабудаваны на спекуляцыі фактам адсутнасці зацверджанага генплана? Пытанне «Падняпроўя» было ўзнята яшчэ на сакавіцкай секцыі У. Гурковым і В. Цітовым. Аказалася, што з прынятай прывязкай не згодны намеснік дырэктара па будаўніцтве М. Лук'янчык, хоць пры рашэнні пытання на мясцовасці ўвосень мінулага года ён хутка мераў крокамі прастору, карэкціраваў вось царквы. І справа тут не ў царкве, а ў пачуцці адказнасці тых, хто быў далучаны да распрацаванага «Мінскпраектам» памылковага рашэння.

У будаўніцтве музеяў пад адкрытым небам не ўсё ішло так гладка, як гатовы сцвярджаць аўтары артыкула, спасылаючыся на тое, што за апошнія дваццаць гадоў іх у нашай краіне пабудавана звыш сарака. Многія будаваліся дзесяцігоддзямі, і ўжо ў ходзе будаўніцтва час ставіў перад імі новыя грамадска-культурныя задачы. Стварэнне скансена патрабуе пастаяннай пошукавай работы, уліку перспектыў, развіцця. Колькі цяпер мы гаворым пра памылковыя рашэнні і праекты, якія неслі непапраўны ўрон нашаму дабрабыту, культуры, маралі! І ці толькі нашым? Газеты пішуць пра тое, што ў Трансільваніі (Румынія) намечаны да зносу восем тысяч вёсак з цэрквамі і магілкамі ў сувязі з праектам перасялення сялян у аграпрамысловыя зоны. А праблема экалогіі, якая стала другой па значнасці пасля барацьбы за мір?..

Застаецца ўражанне, што аўтары артыкула «Жураўель і сініца» не вераць у магчымасць стварэння ў Беларусі паўнацэннага і жыццяздольнага музея пад адкрытым небам, бо бачаць яго такім, якім уяўлялі сабе дзесяць гадоў назад. Вось і адсылаюць «лавіць сініцу». Толькі ці патрэбна нам такая «птушка» сёння?

**Аляксандр ЛАКАТКО,**
**кандыдат гістарычных навук, начальнік архітэктурна-рэстаўрацыйнага аддзела ВА «Белрэстаўрацыя».**

---

помнікаў у экспазіцыі, куды перададзена каля 800 экспанатаў. І фонды паціху разгружаюцца, ды і ў адмысловых хатах — узорах лепшых традыцый народнага дойлідства ім будзе суха, светла і добра. Але ж калі ідзеш па нашым музеі — дзіву даешся: узводзяць будынкі рэстаўратары, людзі рэдкіх прафесій, якія ў дасканаласці ведаюць усе прыёмы і сакрэты старых майстроў. А збудавалі хату — сцены свецяцца, у покуці зацякае так, што ручнікі гніюць. Накрылі страху — яна цячэ. Праз год давай перакрываць нанова. Ды яшчэ і пахвалімся ў экскурсіях, што кошт адной страхі — 2 тысячы рублёў музею каштуе. А прадметы побыту ў такіх забудовах паціху гніюць і плеснявеюць.

Часам, праўда, некаторых адказных работнікаў пачынае нешта турбаваць. Летась, напрыклад, напярэдадні Міжнароднага дня моладзі наш дырэктар т. Г. А. Ткацэвіч, прадстаўнікі міністэрства аж началі на тэрыторыі музея — сцераглі яго ад клуба «Талака», які прыехаў у музей на суботнік, а пасля збіраўся ладзіць купалле ў зоне адпачынку. Гэта, на думку «старажоў» было вельмі небяспечна для помнікаў. А тое, што каля музея адпачываюць сотні людзей, якія не разумеюць каштоўнасці помнікаў і ў якіх, што называецца, часам «свярбяць рукі», гэта мала каго хвалюе. Музей не агароджаны, па-сапраўднаму надзейнай аховы няма.

Кажуць, што гадоў праз 10 у нас будуць добрыя фонды, сучаснае абсталяванне, начыненае электронікай. Гэта добра. Вось толькі знайсці б выйсце з цяперашняй сітуацыі...

**Ганна ФУРС,**
**галоўны захавальнік Белдзяржмузея народнай архітэктуры і побыту.**

---

# Канстанцін Ціханавіч КІРЭЕНКА

15 верасня 1988 года на 70-м годзе жыцця раптоўна памёр вядомы беларускі пісьменнік, член КПСС з 1946 года, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, заслужаны дзеяч культуры рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, член прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Канстанцін Ціханавіч Кірэенка (Кастусь Кірэенка).



К. Ц. Кірэенка нарадзіўся 12 снежня 1918 года ў в. Гайшын Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1940 годзе закончыў літаратурны факультэт Гомельскага педагагічнага інстытута, працаваў настаўнікам у вёсцы Гарадзец Быхаўскага раёна. У гэтым жа годзе прызван у рады Чырвонай Арміі. У час Вялікай Айчыннай вайны — вежавы стралок танка, затым — карэспандэнт армейскай газеты на Заходнім і 2-м Беларускім франтах. Пасля дэмабілізацыі ў 1945 годзе працаваў загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва часопіса «Беларусь», галоўным рэдактарам часопіса «Бярозка» (1962—1972). З 1972 па 1986 год галоўны рэдактар часопіса «Полымя».

Першы верш «Радзіма» Кастусь Кірэенка надрукаваў у 1939 годзе ў абласной газеце «Гомельская праўда». Ён з'яўляецца аўтарам кніг паэзіі, прозы, публіцыстыкі, сатыры і гумару, твораў для дзяцей. Шырока вядомы сталі кнігі «Ранак ідзе», «Сіні вырай», «Алёнчына школа», «Сум і радасць дзеда Рэпкі», «Вандроўнае шчасце». Рыбацкая паэма», «Амерыка здалёку і зблізку» і іншыя. Двойчы, у 1969 і 1978 гадах, выходзілі выбраныя творы ў двух тамах. У гэтым годзе завершана выданне трохтомнага збору твораў пісьменніка.У 1963 годзе за кнігу вершаў «Смага» Кастусю Кірэенку прысуджана літаратурная прэмія імя Янкі Купалы. У 1972 годзе за «Кнігу ста песень» — Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы.

Многа ўвагі ўдзяляў К. Ц. Кірэенка перакладчыцкай дзейнасці. Ён пазнаёміў беларускага чытача з творамі У. Маякоўскага, М. Ісакоўскага, А. Пракоф'ева, Я. Смелякова, М. Рыльскага, У. Сасюры, М. Бажана, П. Тычыны, Я. Райніса, іншых паэтаў.

Кастусь Кірэенка быў пісьменнікам яркага самабытнага таленту. Яго творы вызначаюцца высокім грамадзянскім гучаннем, шчырым лірызмам. Ён услаўляў У. І. Леніна, Камуністычную партыю, мір і дружбу народаў, родны край, высакароднасць і веліч чалавека працы.

К. Ц. Кірэенка актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, член Цэнтральнай рэвізійнай камісіі Саюза пісьменнікаў СССР, член прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, член праўлення Беларускага аддзялення таварыства савецка-в'етнамскай дружбы, член рэдкалегіі часопіса «Полымя». На ўсіх участках творчай і грамадскай дзейнасці праявіў сябе ініцыятыўным работнікам, добрым арганізатарам.

Баявыя і працоўныя заслугі К. Ц. Кірэенкі адзначаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны II ступені, Чырвонай Зоркі, двума ордэнамі «Знак Пашаны», многімі медалямі.

Светлая памяць аб пісьменніку-камунісце, таленавітым майстру слова, прынцыповым таварышу назаўсёды захаваецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў, хто разам з ім працаваў.

**Я. Я. Сакалоў, Г. С. Таразевіч, М. В. Кавалёў, М. С. Ігруноў, А. А. Малафееў, В. А. Пячэннікаў, У. М. Шуралёў, У. І. Ганчарык, В. В.Гурын, У. В. Карпаў, У. В. Грыгор'еў, У. П. Кулакоў, Я. К. Вайтовіч, С. Я. Паўлаў, У. Р. Галко, У. І. Міхасёў, У. М. Іваноў, Я. І. Скурко (Максім Танк), Ю. М. Верчанка, Я. А. Ісаеў, А. М. Адамовіч, В. У. Адамчык, С. А. Андраюк, К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва), Р. І. Барадулін, І. А. Брыль, Г. М. Бураўкін, В. У. Быкаў, А. І. Вярцінскі, Н. С. Гілевіч, А. С. Грачанікаў, А. А. Дудараў, М. І. Дзялец, А. А. Жук, С. І. Законнікаў, В. В. Зуёнак, В. А. Каваленка, В. А. Казько, У. А. Калеснік, В. Ф. Карамазаў, Ц. В. Крысько (Васіль Вітка), А. П. Кудравец, А. А. Лужанін-Каратай (Максім Лужанін), П. М. Макаль, І. Я. Навуменка, У. П. Някляеў, П. Е. Панчанка, Н. Е. Пашкевіч, Г. П. Пашкоў, І. М. Пташнікаў, Б. І. Сачанка, І. Д. Сіпакоў, І. Г. Чыгрынаў, І. П. Шамякін, Я. І. Янішчыц.**

---

# СТРАТА

Родныя, сваякі асірацелі на блізкага чалавека, Беларусь і наша літаратура — на яркую творчую асобу. Ад нас пайшоў Кастусь Ціханавіч Кірэенка.

Не стала яшчэ аднаго загартаванага байца старой гвардыі — таго, хто быў у першым эшалоне нашай паэзіі, народным пасланцом у найвышэйшым заканадаўчым органе дзяржаўнай улады рэспублікі, хто меў свой важкі голас на нашых пісьменніцкіх сходах, на пасяджэннях прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі — адным словам, няма ўжо аднаго з тых, да каго прыслухоўваліся шырокія колы нашай грамадскасці.

Кастусь Ціханавіч быў зямны чалавек. Эмацыянальны і стрыманы, чуллівы і строгі—тое-сёе меў ад свайго характару, тое-сёе меў ад няпростага, а часамі і суровага жыцця. Яму, як і ўсяму яго пакаленню, прыйшлося шмат чаго зведаць і выцерпець. Адпаведна, такая ж, зямная, і яго паэзія. То з пяшчотнай любоўю да Радзімы, маці, жыцця, хараства, з увагай да таямнічага і чароўнага свету пачуццяў, то з гневам да тых, хто сее, плодзіць зло. Такая ж, зямная, і яго проза: дзіцячыя апавяданні, замалёўкі пра сяброў-франтавікоў, пра свае рыбацкія прыгоды, падарожжы па беларускай зямлі. То з цеплынёй да сціплых, але мужных і добрых людзей, да кожнай крынічкі і рэчачкі, то зноў жа з натуральным гневам да тых, хто жорстка і неміласэрна калечыць чалавечую душу альбо прыроду. Успомніце яго «Ранак ідзе», «Смагу», «Кнігу ста песень», «Сіні вырай», «Вандроўнае шчасце» і іншыя кнігі і вы адразу ж апынецеся ў своеасаблівым пісьменніцкім свеце, дзе вам будзе шмат што зразумелае і дарагое.

Зусім нядаўна Кастусь Ціханавіч заходзіў да нас, у «Маладосць», прыносіў свае новыя вершы. Нельга было не парадавацца: ён быў жвавы, поўны творчай энергіі, яснага розуму, па-маладому ўзбуджаны. Адчувалася: яго жывіць і акрыляе свежы вецер перамен, спрыяльна дзьме ў ягоныя творчыя ветразі.

Як вядома, Кастусь Ціханавіч доўгія гады ўзначальваў часопіс «Полымя» — старэйшы і найбольш аўтарытэтны наш часопіс. Кастусь Ціханавіч не толькі намагаўся надрукаваць усё лепшае, што напісалі маладыя творцы, але і памагчы ім як людзям. Думаю, Казімір Камейша, Валянціна Коўтун, Генадзь Пашкоў, Уладзіслаў Рубанаў, Віктар Супрунчук, Алесь Пісьмянкоў і іншыя, хто быў у свой час заўважаны і падтрыманы Кастусём Ціханавічам, цалкам згодныя са мною.

Удзячны Кастусю Ціханавічу за своечасова працягнутую руку і я. На жаль, больш не прыйдзецца сказаць: «Добры дзень!», а мушу прамовіць сумнае і журботнае: «Бывайце, Кастусь Ціханавіч».

**Генрых ДАЛІДОВІЧ.**

---

**Валянціна АКОЛАВА**

## *Калі да зор сыходзяць ветэраны...*

Светлай памяці
К. Ц. КІРЭЕНКІ

Калі да зор сыходзяць ветэраны,
І з вёскі Гайшын нестае сыноў —
Цярплівай Беларусі ныюць раны,
І дзень становіцца жалобай зноў;

Я песняю прашу цябе, айчына:
— Натхненне ад нябыту зберажы!
Не ахалоджвай сонца за плячыма.
І навучы душу высока жыць...

Калі да зор сыходзяць ветэраны,
І Муза сірацее на радкі —
Цярплівай Беларусі ныюць раны,
Людская памяць шчодрыцца ў вякі.

І ты, мой свеце, мужнасцю багаты.
І праславянскі гонар — у вачах...
Паэт, бывайце!
На далоні страты
Мне з Сэрца Вашага — упаў адчай...

---

**Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны раптоўнай смерці пісьменніка, члена КПСС з 1946 года, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, заслужанага дзеяча культуры БССР КІРЭЕНКІ Кастуся Ціханавіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка,**

**Калектыў рэдакцыі і рэдакцыйная калегія часопіса «Полымя» смуткуюць з прычыны смерці члена рэдкалегіі, былога галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» Канстанціна Ціханавіча КІРЭЕНКІ і выказваюць глыбокае спачуванне сям'і нябожчыка.**

*Пошукі, знаходкі, версіі*

# Найменне Бацькаўшчыны

...Не вялікая, не малая, не чырвоная, не чорная яна была, а белая, чыстая...

У. КАРАТКЕВІЧ.

Ці аднаго ўжо даследчыка і нават проста аматара беларускай даўніны спакушала разгадка таямніцы: калі і чаму наша зямля атрымала найменне «Беларусь»? Сёння існуе нямала цікавых версій. Але большасці з іх бракуе абгрунтавання, паўнаты ўліку гістарычных фактаў. Калі браць пад увагу ўсе ўжо цяпер вядомыя факты, звязаныя з паходжаннем назвы «Белая Русь», дык лёгка пераканацца, наколькі далёкія мы ад той «разгадкі»...

Ажыўленне цікавасці да гістарычнага наймення Бацькаўшчыны шчыра радуе. Толькі з пачатку года рэспубліканскі друк змясціў тры допісы на гэтую тэму. (Кастусь Тарасаў. Чаму Белая Русь — Белая? — «Крыніца», 1988, № 1; Валянцін Вячорка. А што кажуць суседзі?— «Крыніца», 1988, № 2; А. Рогалеў. Ля вытокаў Белай Русі. — «ЛіМ», 18.III.1988). Але ж, на вялікі жаль, у нас і цяпер хтосьці можа сказаць, што назва «Беларусь» — «выдумка расійскага цара Аляксея Міхайлавіча», ягоная прапаганда, ідэалагічнае абгрунтаванне захопу гэтых земляў. Дзіка? Але мне даводзілася чуць і такое... Пераканаўчай навуковай канцэпцыі паходжання назвы нашай Айчыны (ды й народу) дасюль няма, таму і гуляюць самыя неверагодныя «тэорыі».

Што мы ўсё-такі маем на сённяшні дзень?

Паводле акадэмічнага падручніка па гісторыі БССР (1961 году выдання) край наш атрымаў назву «Белая Русь» яшчэ да сярэдзіны XIII стагоддзя з прычыны таго, што застаўся вольным, не захопленым «ані мангола-татарамі, ані літоўскімі феадаламі». Слушна крытыкуючы такую версію, вядомы даследчык Язэп Юхо чамусьці адмаўляе дастасаванне назвы «Белая Русь» да тэрыторыі цяперашняй рэспублікі ледзь не да канца XVII стагоддзя і звязвае яе з Маскоўскай дзяржавай, пакольні, маўляў, тэрмін «Вялікая Русь» і «Белая Русь» тады былі адназначнымі (фактычна гэткія ж высновы за 20 гадоў да Я. Юхо рабіў гісторык А. Салаўёў). Пісьменнік Кастусь Тарасаў лічыць, што паняцце «Белая Русь» царкоўнага паходжання і прыйшло яно да нас у XIII стагоддзі, перасоўваючыся з Усходу на Захад (ад Уладзіміра-Суздальскага княства), па меры наступу мангола-татараў. А па найноўшай версіі, прапанаванай А. Рогалевым, «Белая Русь» — тое самае, што «Заходняя Русь», бо колеры белы, чорны і чырвоны сімвалізавалі калісьці бакі свету — захад, поўнач і поўдзень. В. Вячорка паведаміў, што гэтаксама «расшыфраваў» назву нашай краіны літоўскі гісторык Л. Уладзіміровас і сам, відавочна, стаў прыхільнікам якраз такой гіпотэзы. Праўда, сам А. Рогалеў далей ідзе за Тацішчавым і аддае перавагу іншаму тлумачэнню: «белая» — гэта «цэнтральная» (у геаграфічным сэнсе), а таксама важная, самая галоўная, найбольш значная зямля».

Пералічаныя версіі, хоць, мажліва, і маюць большую ці меншую долю ісціны, не ў стане «прыняць» усяго багацця фактаў, спраўдзіцца ў іх. Усе яны могуць быць пастаўлены пад сумненне.

Калі паходжанне «Белай Русі» тлумачыць, зыходзячы з традыцый старажытнай прасторавай арыентацыі, дык чаму тады першыя пісьмовыя згадкі гэтай назвы (XII стагоддзе) аніяк не стасуюцца з заходнімі межамі старажытнарускіх земляў? Наадварот, яны лакалізуюцца ў межах самага ўсходняга, Уладзіміра-Суздальскага княства. Да сярэдзіны XIII стагоддзя назва гэтая, здаецца, ані разу не ўжывалася ў адносінах да сённяшняй Беларусі. Спроба А. Рогалева давесці, што ўжо з X стагоддзя Полацкае княства «замацавала» за сабой назву «Белая Русь», выглядае фантазіяй. Сапраўды, апавядаючы пра змаганні ноўгарадскага князя Уладзіміра з Яраполкам кіеўскім, Мацей Стрыйкоўскі спыняецца і на полацкай трагедыі, падае, што Уладзімір захапіў Паўночна-Усходнюю, а таксама «Белую і Чорную Русь, якія ляжаць на поўдзень». Але ж аўтар не звязвае гэтую «Белую Русь» з Полаччынай, бо ўжо ў іншых месцах «Кронікі» ён адносіць яе то на поўдзень ад Кіева, то на захад да Львова. Ды нават калі б адсюль і вынікала, што ў 976 годзе Уладзімір Святаслававіч захапіў менавіта цяперашнюю «Белую Русь», гэта яшчэ не сведчыла б пра такую ж назву Полаччыны X стагоддзя, бо Стрыйкоўскі карыстаўся тэрміналогіяй, натуральна ж, свайго часу, а не эпохі Рагвалода.

Калі «белы» — гэта «заходні», то хто і чаму называў «белымі калмыкамі» продкаў сучасных алтайцаў, што качавалі па стэпах у познім сярэднявеччы? На захад ад каго жылі белакраінцы — этнічная група славенцаў? Чаму Валашскае і Малдаўскае ваяводствы ў XV стагоддзі называліся Белаю і Чорнаю Валахіяй?

Пагадзіўшыся, што тэрмін «Белая Русь» мог у асноўным мець рэлігійнае адценне, мушу заўважыць: «белымі» ў познім сярэднявеччы называлі не толькі і не столькі царкоўныя землі, але і ўладанні свецкіх феадалаў, якія не плацілі дзяржаўных падаткаў. Неабавязковай была яго сувязь з «чыстым праваслаўем» і ў XII стагоддзі. Па-першае, «Белая Русь» упершыню згадваецца пад 1135 годам, калі яшчэ не было патрэбы падкрэсліваць чысціню праваслаўя нейкай асобнай зямлі; па-другое, Андрэй Багалюбскі ўзяў сабе тытул князя «Белае Русі» ўжо ў 1157 годзе, задоўга да паходу растова-суздальцаў на Кіеў і фармальнага пераносу сталіцы. Таму апошняя падзея не магла прычыніцца да з'яўлення новай назвы.

Прыхільнікі размяшчэння «Белай Русі» ў межах Маскоўскай дзяржавы (а гэта даводзілі яшчэ такія волаты рускай дваранскай гістарыяграфіі, як Тацішчаў і Карамзін) не асабліва каб вызначаліся аб'ектыўнасцю ў падбіранні і тлумачэнні фактаў. Удалым узорам іх прынцыпаў можна лічыць словы В. І. Ламанскага, напісаныя гадоў пад сотню таму: «У канцы XV і ў XVI стагоддзі, калі пад Белаю Руссю разумелі вольную і незалежную, то мелі на ўвазе не Белую Русь ва ўласным сэнсе, а Русь паўночна-ўсходнюю, Маскоўскую». Хіба магло тады пісацца інакш? Але вось жа дзіўна, што і ў 1940-х гадах А. Салаўёў катэгарычна сцвярджаў: у XV стагоддзі тэрмін «Белая Русь» тычыўся паўночна-ўсходняй Русі і азначаў «вольную, вялікую і светлую» дзяржаву, а Літоўская Русь тады называлася «Чорнай», што разумелася як «падпарадкаваная, меншая» краіна...

Так, Мацей Стрыйкоўскі і сапраўды колькі разоў нібыта называе Масковію «Белаю Руссю», але куды часцей ён адназначна раздзяляе гэтыя паняцці («Масква і ўсе беларусцы», «маскоўскія і беларускія народы»). Больш таго, у адным месцы ён дакладна лакалізуе гэты тэрмін у межах уласнай Беларусі: распавядаючы пра пачатак унутранага змагання Свідрыгайлы з Жыгімонтам (па смерці Вітаўта), кажа, што першы пасадзіў гарнізоны ў ПОЛАЦКУ, СМАЛЕНСКУ і Кіеве, а на палях пазначае: Свідрыгайла АВАЛОДАЎ БЕЛАЮ РУССЮ. Праўда, у іншых месцах «Кронікі» назва гэтая дастасоўваецца і да Валыні з Галіцыяй. Слушна адзначыў М. М. Улашчык. «Кронікай» Стрыйкоўскага лепей не карыстацца ў пошуках аўтэнтычных Белай і Чорнай Русі.

Ёсць жа нямала важкіх аргументаў, што разбураюць версію непрыналежнасці назвы «Белая Русь» да нашых земляў у познім сярэднявеччы. Узяць хоць бы найбольш спраўджаныя і даўно вядомыя. Ужо ў 1304 годзе Беларусь была названа сваім імем. У канцы таго ж стагоддзя польскі гісторык Ян Чарнкоўскі, апавядаючы пра месца зняволення Ягайлы, назваў Полацк «крэпасцю Русі». У 1413 годзе вялікі магістр Прусіі паведамляў чэшскаму каралю, што Вітаўт рыхтуецца да вайны, заключае пагадненні з суседзямі, і што ім (нямецкім рыцарам) давядзецца ваяваць «mit den Weissen Russen» (з Белаю Руссю). Адназначна лакалізаваў Белую Русь у 1578 годзе А. Гвагніні, які — няма сумнення — добра ведаў мясцовую геаграфію, бо служыў у Віцебску. Вось што ён пісаў: «А Русь ёсць траякая: адна Белая, другая Чорная, трэцяя Чырвоная. Белая каля Кіева, Мазыра, Мсціслава, Віцебска, Воршы, Полацка, Смаленска і зямлі Северскай, якая здаўна належыць Вялікаму княству Літоўскаму». Дарэчы, Маскоўскую дзяржаву ён тут называе Чорнаю Руссю. Прыкладна тым жа часам датаваны не менш каштоўны запіс у Густынскім летапісе: «Вестно есть всем, яко сии все... Москва. Белая Русь, Волынь, Подоля, Украйна, Подгоря... единокровны и единорастлны, ибо суть и ныне все общеединым именем Русь нарицаются». Як бачым, Масква тут — зусім не Белая Русь. Гістарычныя вобласці славянскага свету пералічваюцца тут з усходу на паўднёвы захад і пад «Белую Русь» трапляе прынамсі Беларускае Падняпроўе.

У 1620 годзе рыжскі ратман Бенядзікт XI, запісваючы, адкуль прыехалі купцы, адзначаў Віцебск і Полацк як гарады «Weissreusland» (Беларусі). А гэта факт першаступеннага значэння. Калі ганзейскія купцы ў Рызе добра ведалі Беларусь як частку Вялікага княства, то хіба не магло гэта разысціся далёка па Заходняй Еўропе?

Недзе ў тыя ж гады магілёўскі біскуп па дакументах фігураваў ужо як «епіскап Белай Русі». У 1632 годзе польскі гісторык Сымон Старавольскі, апісваючы Рэч Паспалітую, канстатаваў: «Чырвоная Русь... мяжуе з поўдня з Венгрыяй, Малдавіяй і Бесарабіяй, з усходу — са стэпамі Скіфіі і магутным царствам Масковіі, з поўначы — з БЕЛАЙ РУССЮ, ЯКАЯ ЛЯЖЫЦЬ ПРЫ РЭКАХ СТЫР І ПРЫПЯЦЬ, з захаду — з Малою Польшчаю». Гэта, бадай, першы выпадак уключэння ў Беларусь заходняй часткі Беларускага Палесся.

Пачынаючы з 1648 года віхура казацка-сялянскіх паўстанняў, падрыхтоўка да захопу беларускіх земляў і сама вайна 1654—1667 гадоў прывяла да значнага пашырэння выкарыстання тэрміна «Белая Русь» і да немалой блытаніны. Скажам, у дакументах тых часоў трапляюцца звесткі пра нейкую «Белую Русь» нават на Украіне. Пры больш уважлівым іх аналізе высвятляецца, што гэта падначаленыя Б. Хмяльніцкаму вайсковыя аддзелы, сфарміраваныя, відочна, з беларусаў. Так, рускі пасол Рыгор Ункоўскі ў 1649 годзе дакладваў гетману, што ён, «едучы па Запарожскай зямлі, праведваў Войска Запарожскае і ўсю Белую Русь, ці сапраўды хочуць яны быць пад высокаю рукой царскай вялікасці». У іншым месцы пісалася: «А якія людзі Запарожскага Войска і Белай Русі былі на Доне, і тыя з Дону да гетмана прыйшлі».

У ідэалагічным саперніцтве дыпламатыя Аляксея Міхайлавіча натуральна ж імкнулася скарыстаць розніцу палітоніма варожае дзяржавы («Літва») і этноніма «Белая Русь», які ўваходзіў у шырэйшы ўжытак, падспудна апелявала да «БЕЛАРУСКІХ ЛЮДЗЕЙ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ ЗА (пад. — Г. С.) ЛІТВОЮ». Пры гэтым вось што істотна: царскія палітыкі разглядалі ўжо амаль усю этнаграфічную Беларусь у яе адзінстве. Захапіўшы Вільню ў 1655 годзе, Аляксей Міхайлавіч дапоўніў свой тытул словам «беларускі». А пасол германскага імператара Мейерберг, які быў у Маскве ў 1661 годзе, у сваім «Падарожжы ў Масковію» напісаў, што пад Белаю Руссю трэба разумець прасторы «паміж Прыпяццю, Дняпром і Дзвіною з гарадамі Навагрудкам, Менскам, Мсціславам, Смаленскам, Віцебскам і Полацкам і іх ваколіцамі». Няцяжка здагадацца, што ягонымі вуснамі гаварыў маскоўскі двор, аб чым, дарэчы, яскрава сведчыць ужо наступны запіс Мейерберга: «Усё гэта (названыя землі.— Г. С.) калісьці належала па праву Рускім, але ў выніку ваенных выпадкаў яны ўступілі шчасцю і харобрасці Палякаў і Літоўцаў». Гэткая падазроная дакладнасць і «шчодрасць» царскай стратэгіі ўжо, відаць, мусіла лічыцца прынамсі з рэальнай этнаграфічнай адметнасцю акрэсленай тэрыторыі, з існаваннем тут самастойнай народнасці.

Гэты допіс — не навуковы артыкул, таму хай ужо выбачае чытач за схематызм і адсутнасць поўнага абгрунтавання. Тут не ставілася за мэту спроба новага тлумачэння гісторыі наймення Беларусь. Хацелася адно толькі звярнуць увагу на тое, якая яна складаная, заблытаная. А ўжо патрэбу хутчэйшага «разблытвання» гэтага пытання, як і сорам за паўведанне святога нам, беларусам, імя, за дагэтуляшнія «тэорыі» аб царскім яго «дараванні», спадзяюся, свядомы чытач адчувае і сам. Думаецца, наспеў час нашым навукоўцам узяцца за грунтоўны дослед, стварыць урэшце зграбную, няхібную канцэпцыю, паказаўшы, які шлях прайшла назва нашай Бацькаўшчыны, калі, якое значэнне мела гэтае паняцце, чым былі для нашых продкаў тэрміны «Русь», «Літва» і «Чорная Русь».

Генадзь САГАНОВІЧ,
супрацоўнік Інстытута
гісторыі АН БССР.

## НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ

**З 26 ВЕРАСНЯ ПА 2 КАСТРЫЧНІКА**

26 верасня, 20.05

**«ЖЫВОЕ ДРЭВА МУЗЫКІ»**

Іграе Дзяржаўны камерны аркестр БССР.

Прагучаць творы французскіх кампазітараў.

27 верасня, 21.50

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

«Турботы дзеда Пушкара» — так можна назваць першы сюжэт, які расказвае пра калекцыю керамікі гэтага майстра ў Мазырскім музеі.

Затым размова пойдзе пра тое, як будуецца тэатр у Мазыры.

На заканчэнне — разважанні пра палескі дыялект.

28 верасня, 19.30

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ»**

Вершы М. Ю. Лермантава ў перакладзе Я. Міклашэўскага.

28 верасня, 19.35

**«РОДНАЕ СЛОВА»**

Размова пойдзе аб праблемах адкрыцця ў гарадах рэспублікі школ і класаў з беларускай мовай навучання. Яе вядуць актывісты Беларускага фонду культуры — удзельнікі бацькоўскіх сходаў. Затым вядучы П. Садоўскі пазнаёміць з поштай «Роднага слова». Будзе зроблена абвестка пра адкрыццё універсітэта гісторыі і беларускай мовы пры Палацы прафсаюзаў. Убачыце таксама плакаты мастака У. Крукоўскага.

28 верасня, 20.05

**«МІНСК МУЗЫЧНЫ»**

В. Раінчык. Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам.

Выканаўцы: аўтар і сімфанічны аркестр Беларускага тэлебачання і радыё.

Вядучая — музычны каментатар Э. Язерская.

1 кастрычніка, 17.30

**«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ»**

Фестываль тэлевізійных музычных праграм.

Народны артыст СССР Р. Р. Шырма.

1 кастрычніка, 19.00

Адкрыццё канцэртнага сезона ў Белдзяржфілармоніі.

2 кастрычніка, 17.45

**«МАЛАДОСЦЬ МАЯ НЕЗАБЫЎНАЯ»**

Народная артыстка СССР С. Станюта.

2 кастрычніка, 23.20

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма знаёміць нас з жыццём Польшчы.

Вядучыя — консул ПНР у Мінску З. Худзік і журналіст Р. Новікаў.

## АБ'ЯВЫ



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 01375

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, машынапіснага бюро — 33-44-04, бухгалтэрыі — 23-73-37.